

Гэта ноч святая → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




Саколка бліжэй Гародні → 5


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 05 (3168) Год LXII Беласток, 29 студзеня 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Сцэна можа выхоўваць, можа быць месцам, дзе чалавек дарастае. Мабыць, так ёсць у выпадку Магдаліны Маліш, якая кантакт са спяваннем на сцэне мае ўжо з першых гадоў свайго жыцця. Яе талент заўважылі, між іншым, падчас фестывалю «Беларуская песня», як нешматлікі прадстаўнік Падляшша выступіла яна з гуртам «Пэрцэпцыя» ў конкурснай частцы фестывалю «Бардаўская восень-2016», дзе яны атрымалі ажно два прызы. Магда — стыпендыятка Маршалка Падляшскага ваяводства ў галіне мастацтва.**



# У беларускай мове
## знаходжу тое, што хачу сказаць...

Магдаліна Маліш:

— У прынцыпе я заўсёды спявала. Ужо будучы малым дзіцяткам, седзячы дома, я эксперыментавала з вакалам. Маючы 6 гадоў, я ўпершыню прыняла ўдзел у «Беларускай песні». Пазней, падчас вучобы ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Орлі, я спявала ў калектыве «Адна трэцяя». Мы выступалі на розных, таксама беларускіх, конкурсах і нярэдка атрымлівалі ўзнагароды. Пазней я пачала спяваць сола і тут таксама былі поспехі, прыкладна ва ўзгаданай «Беларускай песні». І мушу тут сказаць, што школа дала мне шанц, бо калі б не выступленні з «Адной трэцяй», я ніколі не пачала б сольнай дзейнасці. Лічу, што наогул спяваю песні на беларускай мове якраз таму, што я заўжды вучылася ў такіх школах, дзе родная мова з'яўляецца вельмі важнай.

У пяцігадовым узросце Магдаліна ў конкурсе «Роднае слова» дэкламавала «Сабаку Чапу», аўтарства Генадзя Шэмета. У 2016 годзе прыняла ўдзел у «Сцэнічным слове», у якім атрымала дэкламатарскае Гран-пры. Магда вядомая таксама сваёй акцёрскай дзейнасцю — яе ігру можна пабачыць у спектаклях. Прэм'ера апошняга, пад назвай «Нявера», адбылася ў лістападзе мінулага году на сцэне Бельскага дома культуры. Там яна іграла разам з сястрой, Дар'яй.

Важным часам для Магдаліны аказалася дзейнасць у гурце «Пэрцэпцыя», які яна стварае разам з гітарыстам Міхалам Зіноўчыкам. Пераломным момантам было іхняе выступленне падчас XXIII Фестывалю беларускай бардаўскай ды аўтарскай песні "Бардаўская восень". Там і атрымалі яны прыз глядацкіх сімпатый і аб'яднання «Бельская кааліцыя». Між іншым прысутнасць «Пэрцэпцыі» была своеасаблівым подыхам Беласточчыны сярод выканаўцаў конкурснай часткі фестывалю.

Магдаліна Маліш:

— Думка каб паспрабаваць сваіх сіл на «Бардаўскай восені» ўзнікла яшчэ летам, перад канікуламі. Ідэю выступлення падкінуў мне настаўнік інфарматыкі ў Бельскім белліцэі Славамір Нядзьведзкі. Першапачаткова я нават не ўспрымала сур'ёзна такой магчымасці. Аднак пачала пераглядаць матэрыялы з мінулых выпускаў фестывалю. Вядома, гэта быў іншы рэпертуар чым той, які я выконвала раней на «Беларускай песні», дзе гучалі больш народныя творы. І ўрэшце я вырашыла, што прыму ўдзел у конкурснай частцы «Бардаў» і да супольнага выступлення запрасіла гітарыста Міхала Зіноўчыка, з якім насамрэч я ўжо раней выступала пры розных нагодах у нашай школе. У гэты некалькімесячны дафестывальны перыяд праца бывала складанай. У нас часам быў недахоп натхнення — цяжка было пісаць словы, музыку, але нам урэшце атрымалася, а восенню як «Пэрцэпцыя» мы выступілі на фестывалі. Вядома, вельмі прыемна, што мы атрымалі тыя ўсе ўзнагароды, гэта сапраўды вялікі гонар. Шчыра кажучы, я ніколі раней не пабывала на «Бардаўскай восені». Я ўвогуле не ведала як буду там сябе адчуваць. Таму толькі, калі мы паспрабавалі сваіх сіл на фестывальнай сцэне, я адчула клімат мерапрыемства. І сцвярджаю, што я добра сябе там адчуваю, што гэта маё месца, я ў прынцыпе такая, як іншыя выканаўцы, публіка, бо нас аб'ядноўвае бардаўская беларуская песня, прастора.

Падчас «Бардаўскай восені» можна было адначасова пазнаёміцца з іншым відам дзейнасці Магды. Словы да «Вады» і «Золата» — песень, якія на сцэне Бельскага дома культуры выканала «Перцэпцыя», напісала менавіта сама вакалістка. Гэта адначасова паэтычныя творы, якія знайшлі сваё сцэнічнае выкананне ў музыцы.

Магдаліна Маліш:

— У «Вадзе» ёсць гаворка аб тым, што мы, людзі — быццам разлітая вада і нас вельмі складана сабраць, але ёсць нехта, хто ў змозе гэта зрабіць, адначасова надаючы яму сэнс у жыцці. «Золата» тычыцца таго, што людзі часта называюць золатам тое, што зусім ім не з'яўляецца. І калі гэтая рэч прападае, мы сумуем, плачам, а трэба нам цешыцца, таму што мы ў такой сітуацыі свабодныя. У гэтых песнях я закранула таксама думку, што людзі даволі часта шукаюць праблем там, дзе іх няма. Я не хацела пісаць твораў, якія гаварылі б пра штодзённасць, а такія, якіх глыбейшы сэнс для чалавека быў бы матывацыяй для задумы над сваім жыццём. Ёсць у мяне яшчэ адзін верш, хаця першапачаткова я яго гэтак не называла. Аднойчы я сядзела на ўроку беларускай мовы і быў гэта якраз для мяне нейкі кепскі дзень. Чамусьці нейкая дзіўная атмасфера тады была і хаця вельмі шаную беларускую мову і яе ўрокі, я ўжо не хацела слухаць таго, што тады гаварылі. Адкрыла я сшытак і напісала ў ім словы, якія я ў гэты час адчувала, такую своеасаблівую рэфлексію. Гэта не былі цэлыя сказы, а проста словы, можна назваць гэта белым вершам. Надышоў канец урока, празвінеў званок і я выйшла. Неяк пасля трох тыдняў я адкрыла той самы сшытак, каб знайсці ў ім нейкую інфармацыю, патрэбную ў школе, прачытала таксама свае запіскі з урока і падумала сабе: «Магда, гэта як верш». Пасля я выправіла некаторыя элементы ў гэтым вершы і сёння сцвярджаю, што ён мне падабаецца, таму што ён прыйшоў так адразу і цалкам сам, я зусім не мела ў думках яго пісаць. Пакуль што я яшчэ не ведаю ці яго неяк выкарыстаю, але ён напэўна не прападзе. Я пішу на беларускай мове, бо якраз у ёй знаходжу тое, што хачу сказаць.

Дзейнасць і талент Магдаліны Маліш заўважыла таксама ўправа ваяводства. Як стала вядома, 12 снежня мінулага года, Магда і яе сястра, Дар'я, апынуліся ў ліку 70 вучняў з Падляшша, якім на 2017 год прызначылі стыпендыю Маршалка ваяводства ў галіне мастацтва. Стыпендыяльная камісія вылучыла Магдаліну ў галінах музыкі, тэатра і літаратуры. 20 студзеня бягучага года сваю прысутнасць на ўрачыстасці ўганаравання стыпендыямі ў Оперы і падляшскай філармоніі ў Беластоку Магда Маліш адзначыла песняй «Золата», выкананай разам з Міхалам Зіноўчыкам.

Магдаліна Маліш:

— У мяне неяк ніколі не было думкі аб тым, каб пастарацца пра стыпендыю Маршалка Падляшскага ваяводства. Толькі ў мінулым годзе, дзякуючы падказцы педагога нашага ліцэя, спадарыні Марыі Нікалаюк, мы разам з сястрой падалі адпаведныя дакументы. Так папраўдзе я не верыла, што атрымаю тую стыпендыю, але аказалася што і нас управа ваяводства ацаніла належным чынам. Пакуль што я яшчэ не ведаю, на што прызначу тыя сродкі, але напэўна варта іх выкарыстаць на маё развіццё ў галінах, якія мяне цікавяць, прыкладна, на тэатральныя заняткі.

Спяваючы на сцэне Магда Маліш сягае таксама па паэтычныя творы вядомыя ды істотныя для беларусаў. Між іншым падчас фестывалю «Беларуская песня» ды «XXXVII Дзён Бельска Падляшскага» ў яе вакальным выкананні неадноічы можна было пачуць прыкладна «Мой родны кут» Якуба Коласа.

Магдаліна Маліш:

— Калі я прымала ўдзел у дэкламатарскіх конкурсах, нярэдка прэзентавала фрагменты «Новай зямлі» Якуба Коласа. Чытаючы яго творчасць добра вядомымі сталі мне і словы верша «Мой родны кут». Калі я пачала вучобу ў II Агульнаадукацыйным ліцэі ў Бельску-Падляшскім, я таксама пачула гэты твор у форме песні, якую спяваў школьны калектыў «Вянок». Надышоў час, што і я пачала спяваць «Мой родны кут». Нармальна і поўнасцю ясна, што мы жывем на Падляшшы, у нашым «родным куце». Для мяне зразумела, што сёння гаворым на беларускай мове, што мы гэта будзем рабіць і заўтра, што мы тут, што тут беларусы. Калісьці я гэтага яшчэ так не разумела, але калі я пачала быць ужо старэйшай, мне гэта стала пазітыўным, мілым і ясным. І думаю, што калі я ўжо скончу наш белліцэй і пайду вучыцца кудысьці далей, заўжды буду ўспамінаць мой родны кут.

Магда не баіцца таксама рэпертуару Анны Герман. Па прычыне асаблівага тэмбру голасу ды манеры спеву польска-расейскай спявачкі, яе песні не належаць да ліку лёгкіх для выканання. Слухаючы Магдаліну ў творах такіх як «Чалавечы лёс» ды "Танцуючыя Еўрыдыкі», аднак можна неяк адчуць, што яна не ўкладвае асабліва многа высілку ў іх спяванне і цікава спраўляецца з іх выкананнем. Тады можна меркаваць што так рэпертуар ёй падыходзіць. Магда своеасабліва ўспрымае справу вакальных інспірацый для спявання сваіх песень.

Магдаліна Маліш:

— Мне не трэба было інспіравацца іншымі вакалістамі, таму што я хацела, каб тая песня, выкананне былі маімі. Калі ідзе пра пісанне тэксту маіх першых песень, тут я адчула, што мушу для гэтага знайсці інспірацыю, каб тое,

працяг ☞ 11



# Беларуская нафта

Свет купаецца ў нафце. Яе так шмат, што ўрады многіх краін, што ёй гандлююць, ідуць на розныя непрыстойныя рэчы, абы нашкодзіць канкурэнтам. Ну, калі хапае розуму ўцяміць, што гэты шлях рана ці позна прыводзіць да гэтакіх жа мераў у адказ, то яны тады сядаюць за круглы стол і пачынаюць дамаўляцца пра зніжэнне здабычы чорнага золата. Каб кошты крыху папаўзлі ўверх, каб рынак падзяліць, і яшчэ пра розныя рэчы дамаўляюцца, ад геаграфіі пракладкі нафтаправодаў да гандлю новымі тэхналогіямі нафтаздабычы.

Стол перамоў можа быць і квадратны, неабавязкова круглы. Справа не ў стале. Значна горш калі ў некаторых квадратныя галовы. І яны пачынаюць нафту лічыць адзінай крыніцай прыбытку. Бо яе не трэба садзіць як бульбу, і даглядаць не трэба як буракі, і захоўваць не трэба як збожжа, і выхоўваць як спецыялістаў, а толькі выкачваць з зямлі як нечыстоты з памыйнай ямы, і прадаваць тым, у каго нафты няма, а грошы ёсць.

Пры гэтым наяўнасць грошай не заўсёды залежыць ад таго, ці ёсць свая нафта, ці не. Вось, скажам у ЗША ёсць і нафта, і грошы. А ў Расіі нібыта і нафта ёсць, і ў дадатак і газ, і лес, і яшчэ мноства розных карысных рэчаў, якіх не трэба ні садзіць, ні даглядаць, ні захоўваць, ні выхоўваць, а грошай, калі верыць выказванням іх прэм'ера, няма.

Ці вось параўнаць Нямеччыну і Беларусь. Вялікай нафты няма ні ў каго, але грошы з гэтых двух суб'ектаў ёсць толькі ў немцаў. І тут звычайная чалавечая логіка падказвае, што беларускай уладзе варта было б прааналізаваць, калі галовы не квадратныя а правільнай формы, чаму ў немцаў ёсць тыя грошы, а ў нас няма, і пастарацца хоць у нечым паўтарыць іх эканамічны шлях. Але беларускі ўрад разважае чамусьці па-іншаму. Можа па-ранейшаму працягваюцца пошукі сваёй унікальнай эканамічнай мадэлі з дадатковым эксперыментам непасрэдна над цярпеннем і вынослівасцю беларускага народа, а можа яны яшчэ не ведаюць, што кола ўжо вынайдзена, і спадзяюцца стаць першаадкрывальнікамі.

І трэба аддаць ім належнае, гэта ў іх атрымліваецца. Ну з колам то не. Яго ўжо прыдумалі, як гэта вядома пераважнай большасці людзей. Ды і канструкцыя там занадта складаная для вынаходлівасці нашага ўрада. Але збіраць падатак за тое, што ты не маеш даходу, яны так званы падатак на дармаедства прыдумалі першыя. І гэта факт. Ну а факт, як казаў герой аднаго класічнага твора, самая ўпартая на свеце рэч.

Не ведаю ці спадзяюцца яны на Нобелеўскую прэмію, але на нейкія свае ўнутрыміністэрскія прэміяльныя за такую мудрагелістую прыдумку хіба што разлічваюць. Гэта ж трэба, ніхто на свеце да такога не дадумаўся, а нашы нарэшце аказаліся наперадзе ўсёй планеты.

Бо гэты падатак асабліва цынічны. Ён разбурае асновы жыцця беларусаў, калі галоўным для чалавека заўсёды была сям'я. І сям'я вырашала сама, хто выхоўвае дзяцей, хто ходзіць на працу, хто мае іншыя абавязкі. Зараз гэта вырашана за іх. У сем'ях сваркі, абвінавачванні, разрывы...

А зусім нядаўна інтэрнэт узарваўся ад паведамлення, што ўжо дайшло і да суіцыду. І хоць следчы камітэт абвяргае гэтую версію, гэта ўжо не важна. Важна, што свядомасць людзей стала гэта дапускаць...

А дэкрэт пра падатак працягвае сваё пераможнае шэсце па Беларусі. Вось ужо тысячы беспрацоўных грамадзян атрымалі лісты з патрабаваннем яго аплаціць. Яны бегаюць, спрачаюцца, пішуць, пытаюцца за што і чаму, і з якіх прыбыткаў. Яны стараюцца зразумець сутнасць гэтага дэкрэта, але не могуць.

А сапраўды цікава было б прасачыць увесь ланцужок разважанняў тых, хто яго прыдумваў. І мне здаецца, што ўсё пачалося з той самай нафты, якую не трэба ні садзіць, ні даглядаць... а толькі браць, ды качаць, качаць і качаць і з яе грошы.

Толькі вось бяда, сваёй нафты ў Беларусі кот наплакаў. Ну а чым замяніць нафту? Ну ясна чым! Ці больш дакладна сказаць кім. Тымі, чым замяняецца і ўсё астатняе, беларускімі грамадзянамі. Вось адзіная свідравіна, адкуль можна качаць грошы. Вось яна якая, беларуская нафта.

А мы ўсё думалі, калі гэта ў Беларусі нафту знойдуць. А яе, аказваецца, ужо знайшлі. Цікава, ці на доўга яе хопіць.

Віктар САЗОНАЎ



# Люстра бестыі

Я не магу дакладна сказаць, што Адам Міцкевіч, якога нацыянальным паэтам лічаць беларусы, літоўцы і палякі, не лаяўся. Я спазнаў толькі мову яго ўзнёслай паэзіі, вытанчанай і элегантнай. Мяркую, аднак, што, апроч напісанага слова, паэт умеў праклінаць, прытым смачна. Цікава толькі тое, на якой мове. Напрыклад, калі трэснуўся неабутым ступаком аб камень... Ці, лізнуўшы ў школе лаціны, лаяў згаданы камень мовай Вяргілія, Цыцэрона, Сенекі? Ці мо па-літоўску? Ці, усё ж, па-беларуску? Тым не менш, павінен ад болю кінуць матам.

Нецэнзурная лексіка прычапілася да гутарковай лексікі, як вош да чалавека ўжо з пячорных часоў. Таму мы жывем ад пачатку часу з вашымі і мацюкальнымі словамі. Плявалі адзін на аднаго непісьменныя орды, абкідваліся лаянкамі раннія цывілізацыі. Так званых брыдкіх слоў не цуралася адукаваная старажытнасць, пачынаючы з засыпанай пяскамі Месапатаміі, праз фараонаўскі Егіпет, Грэцыю Гамера і Арыстоцеля, да Рымскай імперыі. У наш час брудна лаяліся, кажуць, Петрарка і Мікеланджэла, а ў Польшчы Мікалай Рэй карыстаўся моцнымі словамі без шкадобы. Верагодна, праклінаў і Янка Купала, і калі так, дык пэўна не па-польску, а пабеларуску. У Польшчы лаюцца палякі, палітоўску літоўцы, па-беларуску беларусы. Кожная мова мае свае ўласныя плюгавыя ідыёмы. Цікава, па-якому лаецца прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка? Бо што кляне не горш чым Дональд Трамп па-англійску, ды напэўна. Але, дальбог, на якой мове?! Што тычыцца прэзідэнта Рэчы Паспалітай, дык ужо сама думка, што мог бы ён «кінуць мясам» здаецца быць недарэчнай. Скажу нават больш — гэта здаецца быць настолькі абуральным, як прэзідэнт у просты след вугра, паўзучага па закону аб дзяржбюджэце, зацверджаным прэзідэнцкім подпісам. Таму, што на самой справе чалавек так як гладкатвары, так і гладкаслоўны. Такі ж просты, як прастадушны. Не мае доступу да яго ані сумненне, ані фальшывы сорам. Ён заўсёды на баку закона і справядлівасці, ці з ручкай гатовай да падпісання, або красамоўнай прамовай. Ой, вылучаецца ён сярод іншых прэзідэнтаў ветлівасцю і яснасцю. І без ніякага брыдкаслоўя.

Не ўспамінаючы пра значныя недасканаласці прэзідэнтаў з усяго свету, я асабіста не дакараю іх за тое, што праклінаюць. Горш, калі яны не лаюцца. Аказваецца, лаянка часта спалучаецца ў тонкіх адносінах з сумленнасцю. Выявіла гэта міжнародная каманда навукоўцаў у серыі эксперыментаў. Іх вынікі сведчаць пра тое, што людзі, якія часта лаяліся, часта прымянялі лінгвістычныя мадэлі, якія раней спалучалі з сумленнасцю. Лаянка — паводле канчатковых высноў навукоўцаў — можа сведчыць пра выказванне кімсьці шчырага меркавання. Акрамя таго, гэта сведчыць аб тым, што праклінаючы чалавек не толькі «ўласкаўляе» мову, але таксама не мадыфікуе сваіх поглядаў.

Лаянка такім чынам, хоць заўсёды вартая асуджэння, неабавязкова абазначае культурны ўпадак. Тычыцца гэта, аднак, выпадкаў часовых і індывідуальных. Інакш з мовай грамадскасці. Калі яна пачынае нагадваць памыі, цякучыя ў рыштоку: успененыя, цёмныя, гадзючыя, трэба біць трывогу! Перш за ўсё таму, што яна пранізвае ўсё грамадства — як інтэлектуальныя і палітычныя эліты ды СМІ, як і звычайных людзей, моладзь, гарады і вёскі. Такая плынь поўная гадасцей і інвектыў, негатыўных эмоцый і гневу, пошласці і жорсткасці прадказвае рэвалюцыю негатыўных эмоцый і паўсюднага гневу.

Да гэтага часу ўсе рэвалюцыі пачыналіся з таго моманту, калі вулічны натоўп урываўся ў салоны, лаючыся, клянучы, знішчаючы... Свае новыя парадкі пачыналі з раструшчвання крышталёвых люстраў. У Польшчы на салоны ўварвалася першым паспалітае слова, напісанае на вулічных мурах ад літары «ch», і Моўная рада пры Прэзідэнце РП палічыла, што гэты запіс эквівалентны ранейшаму правільнаму напісанню з «ch». За ім рушыў услед пракляты люд, крыважэрны на ненавісныя эліты і іх даброты. Пачалі біць люстры. Вядома, метафарычна. Але матывацыя такая ж, як калісь. Ніхто не хоча ўбачыць у люстры стаяўшай насупраць бестыі. Толькі што тая заўсёды... з другога боку люстэрка.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Зімовае Купалле?

Святы, святы і па святах — любіць паўтараць мой бацька. Так і сталася як штогод. Вадохрышча было апошнім элементам раджэственскага трыдуум. І каб занадта не ўвайсці ў трыумфаванне і грэх пыхлівасці праваслаўнага народа, пасля марозна-сонечных каляд Усявышні на чаканыя «крашчэнскія маразы» саслаў на падляшскую зямлю галалёдзіцу і адлігу. От табе ізноў праблемы з народнымі павер'ямі. Але ў свеце народнай хрысціянскай абраднасці нішто не стаіць на адным месцы. Усё плыве — як гаварылі старажытныя грэкі. І прыплыла да нас на Вадохрышча з расейскім тэлебачаннем, а як цяпер модна гаварыць «рускім мірам», дзіўная, невядомая ў гэтым кутку свету «новая, свецкая традыцыя» — гэта словы з культавай польскай кінастужкі «Місь». А менавіта спачатку на Украіне, Беларусі, а зараз у скіце ў Адрынках абрад акунацца адважным у азёрных палонках ці рэчках. Толькі такі абрад да вадахрышчэнскіх традыцый не толькі на Падляшшы мaецца як кулак да твару. Высветліла гэта таксама тыдзень назад у сваім ніўскім рэпартажы з украінскага Палесся мая рэдакцыйная сяброўка Ганна Кандрацюк.

Спачатку ў Расеі а потым у яе праваслаўных сатэлітах першапраходцамі гэтай з'явы былі перш за ўсё жаўнеры вайсковых і міліцыйных спецпадраздзяленняў. Амапаўцы ці дэсантнікі — гэта гадамі галоўны кантынгент такой мужчынскай гульні. Каб добра пакорпацца ў дакументах, не дзіўным было б і адшукаць загад пра такія купанні як адзін з элементаў баявой падрыхтоўкі. Не горшымі ў даказванні свайго мужчынскага «я» хацелі стаць і розныя крымінальныя аўтарытэты постсавецкай тэрыторыі. Каротка брытыя крымінальнікі з такімі ж характэрнымі сілавікамі разам акуналіся ў проламках. Адны і другія паказвалі сваю фізічную вытрымку. Тэлевядучыя ці фатографы на сваіх здымках як галоўных герояў выяўляюць бязгрэшных ужо пасля купелі ўсялякіх міністраў, камандзіраў, банкіраў. У гэтым годзе хітом інтэрнэту стала інфармацыя, што ў адным з расейскіх гарадоў разам нырнулі праваслаўны і каталіцкі святары. Зразумела, што гэтае вытульванне даволі прывабліва ў грамадскай і медыйнай прасторы, дык стала такой адметнасцю рускага праваслаўнага свята, якога чакаюць увесь год. А папулярныя яшчэ ў Савецкім Саюзе клубы маржоў нават такім чынам даступілі дадаткова і святарскага благаслаўлення. Ну а зараз гэта таксама адзін з элементаў мужчынска-жаночых экстравагантных узаемадачыненняў. Калі я ў інтэрнэце некалькі гадзін прысвяціў адсочванню сёлетняга антуражу ныранне ў дзень Вадохрышча, дайшоў да высновы, што гэта такое зімовае Купалле.

Бо зусім другая справа маліцца і асвячаць ваду над азёрамі і рэкамі, несці яе дамоў як важную часціну ўсяго праваслаўнага кругазвароту і шматвекавой сямейнай традыцыі. І рабіць гэта ў выцішэнні, узаемапавазе розных узростаў і пакаленняў вернікаў. Аголеныя жаночыя клубы і грудзі, ці жыватастыя мужчыны ў скупых плаўках не дадаюць павагі да аднаго з найбольшых святаў усіх хрысціян. А за такой медыйна-агаленай справай з'явіліся і раскручваюцца вакол Вадохрышча неблагія святочныя кірмашы.

Мой рэдакцыйны сябра не стрываў усіх гэтых сумненняў і рубам паставіў пытанне свайму бацьку наконт купання на Вадохрышча. У адказ пачуў наступныя словы: «Так, купаліся, але толькі тады... калі лёд праваліўся!». От і ўсё і аж усё ў справе такога новага жанру народнай абраднасці. Мне таксама ні ва ўспамінах маіх сяброў, ні ў сямейных пераказах няма месца на такія гісторыі. Мне, ураджэнцу гміны Дубічы-Царкоўныя, адзіны вядомы вадзяны рэлігійны абрад гэта хрышчэнне хрысціян-баптыстаў на рэчцы Арлянцы. Але гэта зусім другая справа дагматычнай спрэчкі паміж рознымі хрысціянскімі канфесіямі наконт узросту прыняцця свядомага хрышчэння. І калі на здымках бачу, як на праваслаўнае Вадохрышча мужчыны ў доўгіх белых сарочках ныраюць у ваду, то адчуванне пранікання на Падляшшы тэатралізаваных форм розных веравызнанняў становіцца фактам. Найважнейшае, каб пры тым яшчэ ўсё адбывалася з узаемнай павагай.

Яўген ВАПА




# Гэта ноч святая…





«Жаваранкі»

**Дваццаць сем хароў і калектываў, якія налічвалі каля чатырохсот выканаўцаў, славілі 15 студзеня нованароджанага Хрыста ў Гарнізонным клубе ў Беластоку. Свае вакальныя, таксама і акцёрскія магчымасці паказвалі ўдзельнікі з усёй Беласточчыны. Прэзентацыі калядных калектываў былі арганізаваны Беларускім грамадска-культурным таварыствам пры падтрымцы Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі Польшчы.**

Гэтае культурнае свята, пачатак сёлетніх беларускіх мерапрыемстваў, чакалася таксама шматлікімі беластачанамі, якія нядаўна віталі калядднікаў у сваіх хатах, а і самі хадзілі з песняй пра нованароджанага Збавіцеля. Не гасне народны традыцыйны звычай хаджэння калядднікаў па хатах на Каляды з выкананнем велічальных калядных песень, тэатралізаваных сцэнак, пераапрананнем у «казу», «мядзведзя», «кабылу», «жорава». За спевы калядднікам давалі дарункі. У аснове калядавання таксама старажытная аграрная абраднасць, агульным прызначэннем якой было паскарэнне надыходу цяпла («ад каляд сонца паварочвала на лета») і забеспячэнне добрага ўраджаю ў новым гаспадарчым годзе. Калядднікі, некаторыя апранутыя адмыслова, як супрасльскія «Журавінкі» ў пастуших строях, дзеткі з бельскага «Міні-антракта» ці гайнаўскія «Званкі», іншыя ў народных строях, вядомых з іншых выступаў на беларускіх мерапрыемствах, як «Жаваранкі» з Мора, гарадоцкія «Хутар» і «Рассляваны Гарадок» ці «Крыніца» з Беластока, або ў святочных аднолькава пашытых гала-касцюмах, як Універсітэта залатога веку з Бельска пад кіраўніцтвам Тамары Русачык ці «Васілёчкі» ды «Куранты». Канцэрт пачаўся супольным выкананнем, пад дырыжыраваннем Аліны Негярэвіч, калядкі «Неба і зямля», калі ўсе выканаўцы, ад дашкольнікаў з 14-га садка ў Беластоку, праз «Вэрвачкі» з Орлі да найстарэйшых — «Арлян», «Каліны» з Залук, «Малінак» з Маліннік, «Чыжавян» з Чыжоў, «Незабудак» з Курашава і «Асенняга ліста» з Гарадка...

— Калісь ішлося калядаваць проста з радасцю, — прызналася дырыжорка Аліна Негярэвіч, якая займаецца мужчынскім ансамблем «Куранты» з Бельска-Падляшскага і хорам «Рэха пушчы» Гайнаўскага дома культуры. — Калі бачу хадзячыя калядныя групы, рэдка можна прыкмеціць у іх святочную радасць. Калі калядуе, напрыклад, група хлопцаў, яны, галоўным чынам, настроены на тое, дзе і колькі магчыма накалядаваць грошай. Многія сёння не ведаюць і не ўмеюць спяваць калядак. Добра, што ёсць такое мерапрыемства, таму што яно не дае згубіцца традыцыі праўдзівага, шчырага калядавання, праваслаўнага. Каталіцкія ад праваслаўных калядак тэкстам не адрозніваюцца, але ў музычным пласце бачна велізарная розніца, калі справа ў мелодыі, гармоніі. Яны інакш гучаць. Двухгалосы спеў з'яўляецца натуральным спосабам для выканання гэтых песень. У праваслаўі калядуецца з зоркамі, няма традыцыі калядавання з батлейкай. На сцэне прагучалі як традыцыйныя песні, так і сучасныя — на беларускай мове, царкоўнаславянскай і на падляшскіх дыялектах

Духоўныя адзначаюць, што калядкі не з'яўляюцца літургічнымі песнямі, а народнай формай праслаўлення Бога, якая проста тлумачыць людзям нараджэнне Ісуса. Праваслаўная царква ў Польшчы мае каля ста самых папулярных калядных песень, але з рэгіянальнымі, вядомымі толькі на мясцовым узроўні, калядак нашмат больш.

Васіль Сегень, віцэ-старшыня БГКТ, спасылаючыся на чарговы — XVIII выпуск агляду, які адкрывае сёлетні цыкл культурных мерапрыемстваў Таварыства, сказаў:

— Нам вельмі прыемна, што мы гэтым аглядам можам працягнуць яшчэ святочны час, разам спяваць калядныя песні, каб на душы ў нас было вельмі радасна, весела з нагоды Нараджэння Гасподняга. Цешыць тое, што мы збіраем вялікую колькасць і ўдзельнікаў, і публікі. Акрамя нашых сталых удзельнікаў — хароў, калектываў — выступаюць тыя, хто толькі ў гэтым мерапрыемстве бярэ ўдзел. Вядома, калядаванне на сцэне з'яўляецца крыху штучным. Вядома, што ў адпаведнасці з традыцыяй, яно ўключае ў сабе пераход ад хаты да хаты, з віншаваннямі і жаданнямі дабрабыту і здароўя для гаспадароў у новым годзе. Традыцыя калядавання вызводзіцца яшчэ з дахрысціянскіх часоў, калі яна тычылася звычаяў звязаных з ураджаем, каб быў добры ўраджай у наступным годзе і гаспадары жылі ў дастатку. Мэтай нашага мерапрыемства з'яўляецца захаванне традыцыі калядавання і паказанне, што яна існуе. Сёння не кожны можа ўдзельнічаць у яго традыцыйным вымярэнні. Такім чынам магчымасць пачуць калядкі на сцэне з'яўляецца заменнікам асабістага ўдзелу многіх з нас у вельмі прыемных звычаях. З таго, што я ведаю пра калядкі, у параўнанні з уласным вопытам, скажам з дзяцінства, то наша беларуская меншасць уводзіць у гэты звычай чыста беларускія калядкі. Гаворка, галоўным чынам, пра мову. У дзяцінстве спявалі ў асноўным калядкі на стражытнацаркоўнаславянскай мове. Яны былі мадыфікаваны пад дыялекты, на якіх выконваліся калядкі. Яны дадаюць ім каларыт. Таксама мы рады, што на нашым аглядзе бачны выканаўцы ўсіх узростаў.

— Зацікаўленасць удзельнікаў гэтым мерапрыемствам велізарная; сёлета на сцэне сабралася чатырыста спевакоў, — адзначыў Ян Сычэўскі, старшыня БГКТ. — Такія агляды, на якіх побач сябе могуць заспяваць наймалодшыя і найстарэйшыя, вельмі важныя для падтрымання традыцыі. Сёння вёска пусцее, і гэтае натуральнае асяроддзе, у якім традыцыйныя калядкі спявалі з вялікай павагай, знікае. Таму, тым большая радасць, што агляд прыцягвае так шмат слухачоў і выканаўцаў, якія хочуць працягнуць традыцыю калядавання. Такая падзея з'яўляецца магчымасцю для ўвядзення ў традыцыю наймалодшага пакалення.

Эля Фіёнік з Бельскага дома культуры:

— Крышку дзіўна, штучна паказваць калядаванне на сцэне. У нас ёсць вопыт спеваў калядак ад хаты да хаты і цалкам гэта інакш выглядае. Мабыць, не так добра атрымліваецца ў вакальным плане, але ў нас усё жывое: ёсць гаспадар, у калядднікаў паяўляюцца сапраўдныя ўсмешкі. Але, як відаць па аўдыторыі, гэта патрэбнае. Не ўсе калядуюць. Асабліва ў такім Беластоку цяжка сустрэць калядднікаў. Ёсць шмат людзей, якія хочуць паслухаць калядкі ўжывую, хай бы і са сцэны.

Бацюшка Андрэй Місіюк з прыхода вялікамучаніка Панцеляймона з беластоцкіх Засцянак:

— Калядкі займаюць асаблівае месца ў традыцыі Праваслаўнай царквы. Спяваліся яны на памежжы паміж Усходам і Захадам, тут, дзе Усход і Захад сустракаюцца і ўзбагачаюцца. Менавіта тут узнікла большасць калядак, якія і па сённяшні дзень вядомыя ў польскай, беларускай ці ўкраінскай традыцыях. Гэта завяршэнне таго, што нясе ў сабе аўтэнтычная дагматычная традыцыя. Калядкі гэта спроба інтэрпрэтацыі аднаго і таго ж зместу, мудрасці, веры, якія перадае Царква, але па-простаму. У простай форме расказвае пра невымоўны цуд нараджэння Хрыста і важнасць гэтай падзеі для ўсяго нашага чалавецтва. Гэта ў простым спосаб змяшчаецца ў калядках, і таму ў іх не пазбегнуты некаторыя недакладнасці, і нават памылкі, але яны не такія важныя, каб сказіць вучэнне Царквы. Спяваюцца ў цэрквах ад падрыхтоўчага перыяду да святаў Ражджаства Хрыстовага.

Калектыў "Арляне" з Орлі прыехаў у Беласток са старымі калядкамі, якія харысты ведаюць ад сваіх бацькоў і дзядоў. Зараз ужо не ходзяць са звяздою «ад хаты да хаты», уступілі месца малодшым спевакам.

— Спяваем і старадаўнія калядкі, вядомыя ад пакаленняў, але ўносім і новую традыцыю, — адзначыў Янка Карповіч з «Хутара». — Маем калядныя песні сучасныя, словы да якіх напісаў, напрыклад, Віктар Швед. Неўзабаве і яны стануць народнымі, таму што сапраўды трапляюць у душы слухачоў, беларусаў, праваслаўных, становяцца роднымі і быццам бы ад заўсёды гэтымі словамі славіўся Хрыстос.

— Хацелася б, каб нашу працу, якую ўклалі мы для захавання роднай традыцыі, ацанілі належным чынам, — прызналася Лідзія Мартынюк з Рыбалаў, якая прывезла з сабою маладзейшы дзіцячы калектыў «Ластаўка». З Рыбалаў прыехалі таксама славутыя ўжо «Росы» з Вясковага дома культуры. — Школу ў нас закрылі, дзеці ездзяць у Заблудаў. Там беларускай мовы няма. Дзеці вывучаюць беларускую мову ў нас. Я, пакуль яшчэ раблю, вучу. Дзеткі спяваюць таксама ў царкве. Нас не хопіць і не будзе каму працягваць традыцыі, абраду. Бацькі маладыя прыходзяць з дзецьмі. А як будзе? Усё залежыць ад таго, каго гміна возьме на працу. Я бачу дзве асобы, дзве дзяўчыны. Адна, Кацярына Засім, працуе педагогам у Беластоку. Яна ў Беластоку нарадзілася, а цяпер перайшла да свайго дзеда на сядзібу, там дом паставіла, і вярнулася жыць у Рыбалы. А другая, Дарота Леснік, да мяне ад маленькай хадзіла, вывучала беларускую мову, выступала. У іх мая надзея. Вёска не вымрэ! Шкада, многа чужых у нас пасяляецца. Добра, каб і яны нашу традыцыю ўшаноўвалі. Мы таксама выступалі сёння ў Заблудаве ў касцёле, з праваслаўнымі калядкамі.

У Гарнізонны клуб усё ішлі і ішлі людзі, ужо з гадзіну да агляду, і праз пару гадзін гурмой выходзілі. Амаль усе калядуючыя і слухачы мелі наклееныя на адзенне чырвоныя сэрцайкі Вялікага аркестра святочнай дапамогі.

— Якія гэты беларусы шчырыя і добрыя! — заўважыла дзяўчына са скарбонкай. — І песні ў іх такія ж!

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

## Вечар калядак

Свята, свята і... па святе. Багаты ў навагодні імпрэзы студзень завяршаўся традыцыйным «Вечарам калядак». Гэта цыклічнае мерапрыемства Гміннага асяродка культуры ў Чаромсе праходзіла сёлета ў суботу 21 студзеня на трэці дзень Вадохрышча. Арганізатар задбаў аб рэкламу, а Гмінная ўправа забяспечыла транспарт. Сёлета прэзентаваліся калектывы пяцідзесятнікаў з Дубіч-Царкоўных і Бельска-Падляшскага, групы школьнікаў, духавы аркестр пад кіраўніцтвам Мікалая Гарадкевіча, «Вульчанкі» з Вулькі-Тэрахоўскай, хор пры касцёле пад кіраўніцтвам Станіслава Матошкі, гурток юных музыкантаў, царкоўны парафіяльны хор пад кіраўніцтвам а. Мікалая Беламызага з Чаромхі-Станцыі, пеўчая група з Чаромхі-Сяла, парафіяльны хор царквы св. Варвары ў Кузаве пад кіраўніцтвам Барбары Бішчук, гурт «Гілочка» пад кіраўніцтвам Ірэны Вішанкі і «Катрынка» з Высокага (Рэспубліка Беларусь) пад кіраўніцтвам Людмілы Дудар. Канцэрт пачаўся ў назначаны тэрмін а 16 гадзіне пры запоўненай зале. Шмат публікі займала месца пры бакавых сценах і ў адкрытых дзвярах калідора. У першым радзе занялі месца ганаровыя госці: старшыня Рады гміны Сяргей Смык, ксёндз Кшыштаф Дамарачэнька, а.а. Юры Пліс і Мікалай Беламызы з царквы ў Чаромсе-Станцыі. Абавязкі гаспадара і вядучага выконвала дырэктар ГАК Барбара Кузуб-Самасюк. Канцэрт пачаўся з выступу дубіцкіх гасцей калядкамі «Он родился в такую ночь» і «Опустился вечер над землёй». Варта адзначыць, што ў рэпертуары знаходзіліся польскія, рускія і ўкраінскія калядкі. Паводле статута выканаўцам рэкамендавалася да прэзентацыі дзве калядкі. Затым гурты змяняліся як у калейдаскопе. Чарговым выступіў калектыў пяцідзесятнікаў з Бельска-Падляшскага з калядкамі «Nad Betlejem w ciemną noc», «Ta święta noc». Багатую праграму запрэзентавалі дзеткі чаромхаўскіх школ пад наглядам настаўніц Іаанны Раманюк, Ірэны Вішанкі, Анны Смык і Анны Беламызай. І так, школьнікі II класа выканалі пастараль «Aniołek» і верш «Wieczór wigilijny», гімназічная моладзь — сцэнку «Ясэлка», вучні III класа — калядку «Bosy pastuszek», а праграму завяршылі вучні, якія вывучаюць украінскую мову — калядкай «Добры вечір» і навагоднімі пажаданнямі. Затым выступіў духавы аркестр Мікалая Гарадкевіча з калядкамі «Wśród nocnej ciszy», «Нова радасць стала», «Ангелы ў небе», «Jezus Malusieńki», «W żłobie leży» і «Сумный святый вечер». У далейшым ходзе канцэрта прэзентаваліся «Вульчанкі» з калядкамі «Ішлі тры царьі», «Што то за предивна в свити новына"; касцельны хор пад кіраўніцтвам Станіслава



«Катрынка» з Высокага

Матошкі: «Niechaj będzie głośno», «Gdy ziemia cichym snem», «Jesteś światło nad Betlejem», «Nad Betlejem w ciemną noc» і «Przybieżeli aniołowie». Гурток юных музыкантаў прэзентавалі: Міхал Ігнацкі — «Jezus malusieńki», Рышчук Малгажата — «W żłobie leży», Рыгор Парфянюк — «Przybieżeli do Betlejem», Сара Тыханюк — «Dzisiaj w Betlejem», Дар'я Навумовіч — «Lulajże Jezuniu», Наталля Шымчак — «Ej w dzień narodzenia», Сільвія Сукачук — «Wesołą nowinę». Парафіяльны хор з Чаромхі-Станцыі" пад кіраўніцтвам а. Мікалая Беламызага: «Стань Давиде», «Торжествуйте, веселитесь», пявуні з Чаромхі-Сяла: «В мисти Вифлиеме», «О предвечный Боже», парафіяльны хор з Кузавы пад кіраўніцтвам Барбары Бішчук: «Виде Бог, виде творец», «Вселенная веселися». Калектыў «Гілочка» пад кіраўніцтвам Ірэны Вішанкі — «Ой в поли, поли», «Тры славные цары».

Канцэрт завяршаўся выступам беларускага гурту «Катрынка» з суседняга Высокага. Калектыў добра вядомы і ў Чаромсе, і ў суседніх Кляшчэлях. Выступаў неаднойчы на культурных мерапрыемствах і фальклорных сустрэчах. Выступ пачаўся калядкай з гвяздай «Тихая ночь». Затым была прэзентавана «гагатуха» з казою, д'яблам, мядзведзем і анёламі. Каляровыя ўборы, музычнае афармленне і мастацкае выкананне навагодняй «гагатухі» зачаравалі публіку. Выступ канчаўся калядкай «Дивная новына» і навагоднімі пажаданнямі. Мерапрыемства лічу ўдалым. Арганізатару і выступаючым калядоўшчыкам належыцца за гэта шчырае дзякуй!

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

---

Саколка і Гародня маюць супольныя планы па развіцці і прамоцыі сваіх гарадоў. Гарады аддзяляе толькі саракакіламетровая адлегласць. Тую трасу ў палове дарогі перасякае мяжа Еўрасаюза. Старасту ад бургамістр горада Саколка раз'ядноўвае палітычны канфлікт. Аб'ядноўваюць трансгранічныя праекты, дзякуючы якім скарыстаюць усе. А тыя ў першую чаргу маюць прынесці карысць лакальным супольнасцям па абодвух баках мяжы.



# Саколка бліжэй Гародні

Мэты і напрамкі развіцця старасты і бургамістр Саколкі разыходзяцца амаль у кожным неабходным супольным дзеянні. Ева Кулікоўская, адкрытая лакальным медыям, гаворыць аб «вайне сакольска-сакольскай». Аднак, як стараста, так і бургамістр, супрацоўніцтва з Беларуссю лічаць адной з галоўных мэт. Таму Саколка робіць свае кантакты шчыльнымі перш за ўсё з суседняй Беларуссю. Мінулы год быў гэтага доказам, а распачаты 2017 год мае быць яшчэ багацейшы ў трансгранічныя праекты.



### Сакольскае староства першым працягнула руку па грошы з МЗС Польшчы на праект з Беларуссю.

— Без супрацоўніцтва з Беларуссю не бачу магчымасці развіцця, — зазначыў стараста **Пятро Рэцька**. — Тая супраца з'яўляецца прыярытэтам нашага раёна. На беларускім баку маем самых сяброў. Не было ніколі ніводных праблем. Вельмі высока ацэньваю нашых партнёраў як з Маладзечна, так і з Гародні.

Сакольскае староства з канцом снежня завяршыла першы этап праекта «Лепшы старт у дарослае жыццё вучняў з абмежаванымі магчымасцямі», якога мэтай з'яўляецца падтрымка тэрапеўтычнага цэнтра ў Маладзечне. У рамках праграмы польскай падтрымкі развіцця сакольскае староства атрымала ад Міністэрства замежных спраў Польшчы 400 тысяч злотых. У рамках першага этапу праекта настаўнікі, псіхолагі і педагогі са Спецыяльнага адукацыйна-выхаваўчага асяродка з Саколкі правялі пяцідзённыя майстар-класы, у якіх удзельнічала 23 вучняў і іх апекуны з Маладзечна. Мэтай майстар-класаў было азнаямленне з выкарыстоўванымі ў Польшчы метадамі тэрапіі біялагічнай зваротнай сувязі (biofeedback), сэнсарнай тэрапіі і тэрапіі святлом. Госці з Беларусі таксама прынялі ўдзел у шэрагу інтэграцыйных мерапрыемстваў ды адукацыйных паездках у Аўгустаў і Беласток. З пачаткам лютага пачынаецца другі этап праекта, які тычыцца рамонту школы ў Маладзечне. Ужо пад канец траўня 2016 года прадстаўнікі сакольскага староства на чале са старастам Пятром Рэцькам былі ганаровымі гасцямі ўрачыстага завяршэння навучальнага года ў той жа школе. Другой мэтай пабыўкі былі дамовы адносна адрамантавання і абсталявання памяшканняў школы.

— Праект «Лепшы старт у дарослае жыццё вучняў з абмежаванымі магчымасцямі» гэта шматлікія мерапрыемствы, візіты прадстаўнікоў улад абодвух гарадоў, але перш за ўсё інтэграцыя, — падкрэслівае стараста. — Дзякуючы яму дзве ўстановы — Спецыяльны адукацыйна-выхаваўчы асяродак з Саколкі і Спецыяльная школа з інтэрнатам № 2 для дзяцей з дэфектам зроку ў Маладзечне маюць магчымасць абмяняцца вопытам. Адначасова хачу падкрэсліць, што мы, як першы раён у Польшчы, карыстаемся грашыма з праграмы польскай падтрымкі развіцця і «ўкладаем» іх у Беларусь.

Староства таксама разлічвае на поспех трох праектаў, якія маюць шанц атрымаць грошы з праграмы Польшча-Беларусь-Украіна. Гэта рамонт 12-кіламетравага адрэзка дарогі на польскім і беларускім баках. Другі праект тычыцца павышэння якасці медыцынскіх паслуг у сакольскай і маладзечанскай бальніцах. Трэці праект гэта ўпарадкаванне плошчы вакол Спецыяльнага адукацыйна-выхаваўчага асяродка ў Саколцы і Спецыяльнай школы для дзяцей з дэфектам зроку ў Маладзечне.

— Маем вусную дамову з мэрам Маладзечна, што будзем безупынна супрацоўнічаць, — падкрэсліў Пятро Рэцька. — Хочам шукаць крыніц фінансавання праектаў, а планаў на гэтыя маем шмат.

### Саколка і Гародня ў планах бургамістр

«Шляхам Тызенгаўза» і «Два азёры — адна культура» гэта праекты, якія чакаюць фінансавання з праграмы Польшча-Беларусь-Украіна. Падпісанне дамоў, якое прайшло пад канец 2016 года ў Саколцы, было папярэджана сустрэчамі і размовамі ўлад абодвух гарадоў.

Мяжа, паводле бургамістр **Евы Кулікоўскай**, не можа перашкаджаць у кантактах і супрацоўніцтве. На яе думку, Саколка, як прыгранічная гміна, абавязана шукаць сваіх шанцаў на развіццё менавіта ў супрацы з найбліжэйшым суседам.

— Калі ідзе пра кантакты з Беларуссю яны небывалыя, — запэўнівае бургамістр. — Цягам года ўдалося нам наладзіць шэраг кантактаў. Таму разлічваем на іх фінансаванне з праграмы Польшча-Беларусь-Украіна, але таксама разлічваем на сродкі з праграмы Польшча-Літва-Беларусь.

Бургамістр Саколкі падкрэслівае адначасова, што для горада адной з галоўных мэт з'яўляецца шчыльная супраца з суседняй Гародняй. Таму цягам 2016 года праходзілі сустрэчы з кіраўнікамі абодвух гарадоў, якія мелі на мэце ўдакладненне планаў адносна супольных праектаў. Кульмінацыйная сустрэча прайшла 22 снежня ў Саколцы, у час якой прадстаўнікі гарадской управы Гародні падпісалі апошнія дакументы праектаў, якія маюць быць рэалізаваны пры фінансавай падтрымцы Трансгранічнай праграмы Польшча-Беларусь-Украіна. Паводле канцэпцыі пагранічныя рэгіёны гэтых трох краін лічацца адным супольным абшарам падтрымкі, быццам бы не існавала мяжа Еўрасаюза. Як паказала папярэдняя праграма на 2012-2016 гады, суседнія рэгіёны спалучаюць супольныя выклікі, якія тычацца здароўя, культурных каштоўнасцей або сацыяльнай інтэграцыі. Грант можа складаць 90% цэлай сумы інвестыцыі аднак толькі пры захаванні аднаго асноўнага прынцыпу — мясцовыя органы ўлады, дзяржаўныя ўстановы, няўрадавыя арганізацыі павінны працаваць разам, у рамках сумеснага праекта, які прынясе карысць лакальным супольнасцям па абодвух баках мяжы. Такую ідэю нясуць праекты «Шляхам Тызенгаўза» і «Два азёры — адна культура».

— У рамках першага праекта хочам адрамантаваць камяніцы, культурную спадчыну Тызенгаўза, — кажа бургамістр Саколкі Ева Кулікоўская. — Другі гэта турыстычны праект, якога мэтай з'яўляецца спалучэнне Гародні з Саколкай веласіпеднай дарогай. Таксама ўпарадкаванне заліву ў Саколцы і возера Юбілейнае.

Каб рэалізаваць праекты, гарады патрабуюць фінансавання да 90% агульнага кошту. Падтрымка дазволіла б пачаць працы ўжо з 2018 года.

— Маю надзею, што зможам атрымаць фінансаванне, — сказала бургамістр Саколкі. — Жадайце нам поспеху!

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

# Шчодры вечар у Крынках

**У школьнай бібліятэцы ў Крынках 13 студзеня 2017 г. вялікая падзея — Шчодры вечар. Наймалодшыя вучні збіраюцца ў бібліятэку некалькі гадзін загадзя. Працягваецца апошняя падрыхтоўка. Разам з трэцякласніцай Эмількай папаўняем і так даволі шырокую падборку каляднага рэпертуару. Пад акардэон спяваю куплеты «Святой Варвары», Эмілька паўтарае рэфрэны. Гляджу кругом, а ўсім астатнім трасуцца губы, пад носам паўтараюць пачутыя словы, не адрываючы зроку ад камп'ютарных экранаў, сшыткаў і кніжак. Перайшоўшы да «Неба і землі» прыемна здзіўляюся, паколькі куплеты старажытнаславянскай калядкі спяваюць уголас.**





— А скуль вы гэта ведаеце? — пытаю, ведаючы што большасць з іх гэта католікі

— А нас Оля, сяброўка з класа навучыла, — адказваюць.

Ідэя арганізацыі Шчодрага вечара паўстала ў маёй галаве пад уплывам вялікага фэсту, якія цягам цэлага дня адбыўся ў крынскай школе напярэдадні Раждаства паводле новага календара. На тым жа фэсце не прагучала ніводная праваслаўная калядка.

— А можа давайце з адну праваслаўную паслухаем, — ветліва звярнулася я да хлапчукоў, якія займаліся музычным афармленнем фэсту.

— Мы тут католікі і ніякіх праваслаўных пускаць не будзем, — насцярожыліся.

А я адчула сябе быццам чачэнец у Беластоку.

План мерапрыемства склаўся сам. Вядома, неабходна было запрасіць да ўдзелу нейкага старажыла, які цікава распавёў бы пра нашы святочныя традыцыі. Неадкладна патэлефанавала я дачцэ славутай ураджэнкі Крушынянаў Марыі Кулакоўскай. Дачка Анна абяцала, што мама прыедзе, калі дажыве. На сустрэчу са спадарыняй Марыяй цешыўся таксама наш малады каталіцкі ксёндз Пётр Васілеўскі. Аказваецца, сваяк.

Нясу з хаты ў бібліятэку традыцыю ў пілюльцы, значыць «Традыцыйную мастацкую культуру беларусаў. Гродзенскае Панямонне» (том 3, кніга 1). Складаю пытанні для святочнай вікторыны.

— Што гэта за кніжка? — пытае мая бібліятэчная «правая рука», пяцікласнік Пеця Таўдуль. Нават калі чытаю польскія кніжкі, Пеці здаецца, што яны беларускія. На яго думку, да чаго не дакрануся, замяняю ў беларускае, у тым ліку кніжкі.

Два дні да вызначанай даты прысвячаю кулінарнай дзейнасці. Шчодры вечар немагчыма справіць без пірагоў. Зношу ў хату торбы з пакупкамі вагой роўнай мне самой. Вельмі хочацца спячы дзецям нешта смачнае, тым больш, што маімі пірагамі яны ніколі не пагарджаюць. Набываю дадатковыя бляхі для пячэння, але і гэтага не хапае, іду пазычаць ад мамы.

На паўгадзіны да пачатку мерапрыемства ў дзвярах бібліятэкі паяўляецца ксёндз Пётр. Прашу яго цярпліваста і адсылаю назад у канцылярыю. Дзяўчаты з першага гімназічнага класа зносяць дадатковыя крэслы, якія раю расстаўляць так, каб памясцілася іх як найбольш. Малодшым і старэйшым дзеткам вельмі хочацца рэзаць і накладаць на талеркі пірагі. І тут рэй вядзе Пеця Таўдуль. Хаця малы, але вопытны, адзін з ліку шасцярых братоў і сясцёр, звыклы да працы, у тым ліку і ў кухні. Дапамагае і настаўніца, якая прыйшла сюды з дзеткамі са школьнай святліцы.

— Аааа... ужо разумею, скуль гэты натоўп у бібліятэцы, — кажа настаўніца. — Яны тут проста наесціся прыйшлі.

— Але ж пані Ася гэтыя пірагі нам ад сэрца спякла. Яна ўсё ад сэрца робіць, — тлумачыць настаўніцы ўзбударажаны такім каментарыем Пеця.

Сапраўды, шмат вучняў сабралася. Некаторым прыйшлося стаяць за дзвярамі альбо паміж кніжнымі паліцамі. Нехта сказаў, што абавязкова трэба разбурыць сцяну, каб павялічыць бібліятэку. Ганаровыя госці, у тым ліку спадарыні дырэктарка і віцэ-дырэктарка сядаюць за сталом накрытым белым, ільняным абрусам. Ёсць і грамніца ў слоіку з рысам, але з-за празмернасці абавязкаў забываюся яе запаліць. Бацюшка Міраслаў Луцюк спазняецца. Слава Богу, што ўвогуле прыйшоў. Спадарыні Марыі Кулакоўскай дарога ў школу аказалася не пад сілу. Яе месца займае аддадзеная беларускай справе, крыху маладзейшая Люба Наўмовіч, родам з Азяран-Вялікіх. Прадстаўляю яе як самага лепшага эксперта па святочнай вікторыне, лепшага нават ад ксяндза Пётра і бацюшкі Міраслава разам узятых.

— Яна ж найстарэйшая і ведае найбольш. На жаль, пакаленне, якое нешта ведае, амаль ужо адышло. Таму нам неабходна шанаваць такіх людзей і старацца даведацца ад іх як найбольш пра нашу традыцыю, пра нас саміх. Без прошлага ў нас не будзе будучыні, — тлумачу сабраным. Успамінаем і спадарыню Марыю. Другакласніца Таня Малеша гаворыць вывучаны ад яе святочны вершык. Калісь гаварылі яго на крушынянскіх ёлках. Я тлумачу на польскую мову, каб усе зразумелі.

Частка пытанняў вікторыны звязана са святочнымі стравамі.

— Ці нехта з вас каштаваў аўсяны кісель? — пытаю.

Цішыня. Руку падносіць адзін з экспертаў — ксёндз Пётр. Кісель варыла яму бабуля з Астраўка, што пад Крынкамі. Вельмі яму не смакаваў. А зноў бацюшку не пасмакавала куцця, таму забыўся колькі разоў у калядным перыядзе ставяць яе на стол. Нічога страшнага, эксперт экспертаў спадарыня Люба ведае адказы на ўсе пытанні. Толькі яна магла растлумачыць, чаму пасля вячэры не прыбіралі са стала. Ксёндз Пётр патлумачыў, што гэтаму ў семінарыі іх не вучылі.

Было і пра гасцей. Калісь іх вельмі чакалі. Да некаторых прыходзіла іх шмат, а зноў іншыя, седзячы ў акне і, вытрашчыўшы вочы, чакалі з мора пагоды. Дзякуй Богу ў бібліятэцы пагоды не прыйшлося чакаць. Гасцей было многа, а гасцінны настрой падтрымліваў Пеця Таўдуль, які падыходзіў да кожнага паасобку з талеркай пірагоў і ветліва частаваў, у тым ліку ганаровых гасцей, не зважаючы, што пірагі стаялі пад іх самым носам.

Бацюшка Луцюк засумаваў, што ў Крынках калядуюць толькі католікі.

І гэтую праблему атрымалася змякчыць. Шчодры вечар аказаўся шчодрым і на калядкі — праваслаўныя і каталіцкія, пад гітару дырэктара публічнай бібліятэкі ў Крынках Пятра Звяжынскага і мой акардэон. Сола выступіў бацюшка Міраслаў. Праспяваў украінскую калядку. Сам ён родам з Люблінішчыны, на якой, паводле яго слоў, яшчэ гавораць па-ўкраінску.

Дзеці засталіся са мной таксама пасля заканчэння мерапрыемства. З ахвотай узяліся за ўпарадкаванне бібліятэчнай залы і мыццё безлічы кубкаў і талерак, за што кажу ім вялікае дзякуй.

У бібліятэчнай памятнай кнізе спадарыня Люба запісала пажаданні, якімі калісь азяранскія каляднікі адорвалі гаспадароў:

*Зажглась звезда, Хрыстос Радзіўся*
*І свет любовью озарыўся.*
*Пусть шчасце входзіт в ваш дом*
*З прекрасным, светлым Раждаством!*

Тэкст і фота **Іаанны ЧАБАН**

## Калядна-навагодняя сустрэча ў Сопаце

14 студзеня ў Новы год па старым стылі ў Сопаце ў сядзібе Беларускага культурнага таварыства «Хатка» сустрэліся пражываючыя ў Трыгарадзе і ў яго наваколлі беларусы. Хаця не ўсе яшчэ вярнуліся з Каляд на Беласточчыне, некаму не дазволіла быць хвароба, некаторыя выехалі ўжо на канікулы, сабралася нас 20 чалавек на традыцыйным ужо святкаванні Каляд і Новага года. Так добра склалася, што ў суботу, калі мы маем поўнае права на карыстанне нашым памяшканнем, выпаў якраз Новы год. Кожны падрыхтаваў нешта і прынёс з хаты. Багаты навагодні стол пахамі заахвочваў да смакавання ўсяго па чарзе. Наша вячэра пачалася з куцці. Міхась Куптэль падрыхтаваў аўсяны кісель і селядцы — вельмі смачныя!



Алесь Юзэфовіч прынёс свойскую ўласнага вырабу каўбасу, агуркі ды слівы на самагоне і настойку на іх. Надзея Аўласюк напякла паштэту, пірага і сырніка ды свайго хлеба з журавінай ды прынесла ажынавую настойку. Уладыслаў Страшэвіч прынёс грушы да мяса і салат з гародніны са свайго ўчастка. Алеся Нарлёх зрабіла «шубу», а Марыся Палюховіч спякла пячэнне са слівавым варэннем. Да гэтага ўсяго яшчэ было і віно, і беларуская «Зубровачка», розныя пячэнні і мясныя вырабы. Да гэтага ўсяго былі навагоднія пажаданні і тосты, а таксама ўспаміны. Наш самы старэйшы Уладыслаў Страшэвіч (былы дырэктар Цэнтра суднаверфнай тэхнікі) успамінаў навагоднія балі на пераломе 1950 і 1960 гг. у зале Гданьскай суднаверфі і ў «Гранд гатэлі» ў Сопаце: велічныя, у прыгожых строях, пад гукі аркестра. Надзея Аўласюк згадала беларускія балі ў Палацы навукі і культуры ў Варшаве. На адным з іх быў Алесь Юзэфовіч. Успаміналі і фокусы, якія ў навагоднюю ноч рабіла моладзь на ўсёй беларускай прасторы, ды варажбы — ад Глыбокага па Беласток. Усё гэта пад музыку калядак. Аленка з Беларусі, студэнтка першага курса культуразнаўства на Гданьскім універсітэце, прызналася, што раней ніколі не ела ні куцці, ні аўсянага кісялю. У яе сям'і такой традыцыі ўжо не было.

Вечар не толькі быў напоўнены смакамі і ўспамінамі, але і неспадзяванкамі. Завіталі да нас калядоўшчыкі — сям'я Алесі і Паўла Нарлёхаў. Іх найстарэйшы сын Аляксандр быў каралём, сярэдні Ян — чортам, а наймалодшы Караль — казой, Алеся — цыганкай, Павал — мядзведзем. Юрка Дварэцкі, які дзень раней закончыў 65 год, прынёс свае сямейныя і антыкварныя памяткі. Найбольшае зацікаўленне выклікалі бразгуны, якія надзяваліся каню на шыю, калі запрагалі яго ў сані.

Вечар прайшоў вельмі хутка — неяк нікому не спяшалася дахаты. Падсумавалі мы мінулы год, які таксама пачынаўся з навагодняй сустрэчы. Варта згадаць, што ў мінулым годзе традыцыйна адсвяткавалі 98-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі. Адзначылі гадавіны звязаныя з выдатнымі беларускімі пісьменнікамі: Алаізай Пашкевіч «Цёткай» (100-ыя ўгодкі смерці), Казімірам Сваяком (90-ыя ўгодкі смерці), Максімам Багдановічам (125-ыя ўгодкі нараджэння). Адбылі традыцыйную турыстычную вандроўку камфартабельнай Паморскай метрапалітальнай чыгункай у Дзержонжна. Калі выселі з цягніка, і на польскай мове запыталі пра дарогу да возера, пачулі адказ па-кашубску. Не ўсё разумеючы, папрасілі мы дзядзьку перакласці гэта на польскую мову, але той сказаў: «Тут е Кашэбы і трэба разумець па-кашэбску».

На жаль, увосень не ўдалося нам сарганізаваць традыцыйнага пячэння бульбы — было надта горача і не было згоды на распальванне вогнішча ў лесе. 7 і 8 кастрычніка ўдзельнічалі мы ў чарговых Днях нацыянальных меншасцей «Гданьскія біяграфіі».

У гэтым годзе БКТ «Хатка» адзначыць 25-годдзе свайго існавання, так як 50-годдзе беларускай грамадскай дзейнасці на Узбярэжжы. Маем таксама надзею на ўдзел у чарговым З'ездзе беларусаў свету. Абы толькі здароўе — чаго перш за ўсё жадалі сабе ўзаемна госці калядна-навагодняй сустрэчы. Варта адзначыць, што наймалодшым удзельнікам сустрэчы быў 7-месячны Лявон Дамброўскі, што дае таксама надзею на працяг беларускай справы над морам.

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі



# Калядкі і радасць!

Нездарма чакаем зімовых канікул! Што для нас снег і мароз? Гэта ж час, калі дыхаем калряднымі ўспамінамі, яны грэюць і адкрываюць на новыя выклікі.

Здаецца, ніхто так не святкаваў як гурт «Жэмэрва» з Бельска. Нашы сябры абкалядавалі родны горад і навакольныя вёскі ды яшчэ паехалі ў Беларусь. Гэтага досведу нельга параўнаць да аднаразовага выступлення на сцэне, перад арганізаванай публікай. Бо тут найбольшая радасць ад блізкай сустрэчы з людзьмі. У наш час, калі людзі цэняць прыватнасць, кожны візіт у чужую хату мае сваю цану і шырэйшае значэнне. Калі пераякаем чужы парог, прыносім не толькі добрую навіну і пажаданні, мы яшчэ аб'ядноўваемся з суседзямі ды суродзічамі. Тады адчуваем сябе вялікай сям'ёй, супольнасцю.

Пра дбайнасць выканання не будзем гаварыць, гэта зразумела. Калі калядуем з належнай падрыхтоўкай і шчыра, ад душы, тады даем працяг народных абрадаў.

Не меншая радасць, як у выпадку сям'і Астапчукоў з падбеластоцкага Сабалева, ад сямейнага калядавання. Тут сустрэліся прыгожыя галасы, сямейная любоў і музычныя інструменты.

(гак)

Фота Міры Лукшы

Юстына БАКУМЭНКА
ПШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

## Настаўнік

Настаўнік вучыць вучняў,
вучні слухаюць і думаюць,
аловак у руцэ трымаюць
і пішуць «урок і тэма».

Настаўнік глядзіць
на сваіх вучняў,
вучні рысуюць у сшытку
розныя рэчы.
Калі настаўнік крыкне:
«Устаньце!»,
вучні сядзяць у крэслах
і ціха глядзяць на настаўніка.

Настаўнік круціць галавой:
«Ну і што тут зрабіць
з гэтымі дзяцьмі!
Праз хвіліну званок будзе!
Трэба сказаць вучням,
каб рыхтавалі кніжкі
на наступны ўрок!»

## Чаромхаўскія гімназісты-валанцёры

У лістападзе і снежні (1.11-13.12.2016 г.) гурток валанцёраў з ліку гімназічнай моладзі ў Чаромсе пад наглядам настаўніцы Анны Віхоўскай пры саўдзеле старшыні Рады бацькоў Агаты Шоплік арганізавалі збор ахвяраванняў у падтрымку прытулку для бяздомных жывёл «Цяпэк» у Гайнаўцы. У рамках акцыі «Падай лапу Цяпку» валанцёры збіралі корм, коўдры, прывязі, таксама дробныя рэчы і талісманчыкі, прызначаныя на кірмаш. Сабраныя падарункі завезлі 14 снежня ў прытулак, у якім змяшчаецца 150 сабачак. Валанцёры зведалі прытулак, пазнаёміліся з умовамі, у якіх знаходзяцца зяркі, выводзілі сабачак на кароценькі шпацыр. Пры развітанні з апекунамі прытулку абяцалі, што гэта не апошняя акцыя і ў бліжэйшым часе будзе праведзена паўторна. Такім чынам чаромхаўскія валанцёры-гімназісты паклалі сваю цаглінку ў дапамогу прытулку для бадзяжных звяркоў «Цяпэк» у Гайнаўцы.

(ус)



Вікторыя ПАТОНЕЦ
Старое Ляўкова,
Гімназія ў Нараўцы

## Дарослае жыццё

Увесь час думаю,
што калі вырасту,
паеду ў іншую краіну.
Кожны момант цаніць буду
і аб'еду ўвесь свет.
Іншая культура, іншыя людзі,
іншая рэчка, іншыя горы.
Калі прыйдзе пара вярнуцца,
пайду дахаты,
на месца бацькавай працы
і пакланюся нізенька
да матчыных рук.

## УВАГА КОНКУРС! № 5-17

Параход сам не хадзіў,
Я яго рукой вадзіў.
Параход ішоў па хвалях,
Як прайшоў — яны прапалі.
П....

(У. Мацвеенка)

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 12 лютага 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадкі № 2-17: певень. Узнагароды, аўтручкі, выйгралі Оля Хіліманюк з Нарвы, Аляксандра Бакун з КШ № 1 у Гайнаўцы, Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага, Мартына Лукша з Нараўкі, Габрыеля Красько, Крыстына Мішчук з Арэшкава. Віншуем!

# Хвальба і кара

*(казкі народаў Каўказа)*

Даўным-даўно жыў на свеце малады джыгіт*. Праславіўся ён на ўсю Балкарыю сілай, якой хапіла б на пяць чалавек. Але любіў ён хваліцца і ніколі не прапускаў нагоды, каб распавядаць пра сваю выключнасць і непаўторнасць.

Аднойчы папрасіў яго бацька агарадзіць двор для жывёлы. У адзін дзень джыгіт прыдбаў калоды з лесу і паставіў плот. А брамы не зрабіў. Яе ж трэба кожны дзень адчыняць і зачыняць. А навошта, калі жывіну кожны раз можна перакінуць праз плот?! Вось, кожны вечар наш джыгіт браў кароў за ногі і перакідаў іх у загароду, а раніцай перакідаў зноў на поле. Пры тым невыносна хваліўся:

— Ці ёсць на свеце нехта мацнейшы за мяне?!

Пачула гэта аднойчы маці джыгіта і кажа:

— Паслухай, сынок, на свеце шмат людзей за цябе мацнейшых!

Здзівіўся джыгіт. Рашыў ён адправіцца ў свет ды пашукаць кагосьці мацнейшага за сябе. Ішоў ён па сыпучых пясках і топкіх балотах, брыў у дажджы і ў спёку, надта стаміўся, але ніколі не азірнуўся за сябе. Аж тут на дарозе — канал. Сышоў джыгіт уніз рова і не можа адтуль выйсці. Сядзіць і думае: «Што тут рабіць?». Аказалася, што ён патрапіў у баразну на полі, якое араў адзін здаравяка. Пабачыў ён джыгіта, здзівіўся і пытае:

— А ты, малы, адкуль тут?

— Я-я, — запыхаўся джыгіт, — я самы моцны!

— Ха-ха!

Паднёс яго двума пальцамі здаравяка да вачэй і думае: «Занясу сваёй мамцы і брацікам, няхай пабачаць, якое маленькае дзіва засела ў нашым полі». Як падумаў, так і зрабіў:

— Ці бачыў хто з вас такога малечу? — спытаў сваіх родзічаў-здаравякаў і вярнідубаў.

— Не, не бачылі яшчэ такога, — усклікнула маці-веліканка.

Пасадзілі джыгіта пад напарстак і рашылі, што будзе служыць ім цацкай.

— Ды што рабіць? — падумаў джыгіт. — Як ратавацца?

Думаў ён, думаў, аж прыдумаў. Ноччу ён прарыў зямлю пад напарсткам і ўцёк.

Цалкам забыліся гаспадары пра джыгіта, а калі ўспомнілі і паднялі напарстак — няма! Стала ім крыўдна. Адзін з веліканаў рушыў з пагоняй. Адлегласць, якую джыгіт адолеў за сем дзён, той здаравяка пераадолеў трыма скокамі. Вось-вось ужо даганяе ён джыгіта! Тут жа, невядома адкуль, насустрач ідзе другі велікан. Цягне ён у адной руцэ дзевяць вазоў солі.

— Ратуй, браток, мяне, — крычыць джыгіт, — гоніць мяне іншы велікан, ён хоча забіць мяне.

Толькі паспеў здаравяка пасадзіць джыгіта ў соль, як з ім параўняўся другі здаравяка. Сталі яны змагацца, біцца на смерць і жыццё. Перамог той, які валачыў соль.

— Якім ветрам цябе прывеяла ў наш край? — спытаў ён джыгіта.

— Прывеяў мяне ліхі вецер, — адказаў джыгіт. — Я занадта хваліўся і расслаўляў сябе, дзе толькі папала.

Расказаў яму джыгіт, як лічыў сябе самым моцным на свеце і як верыў у тое, што няма ў свеце мацнейшых і больш удалых за яго...

— А зараз у мяне няма слоў, каб выказаць тваю магутнасць і сілу, — прамовіў скораны джыгіт.

Спадабалася велікану такая мова, таму ён адпусціў спалоханага джыгіта дамоў.

**(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)**

* Джыгіт — умелы, спрытны і адважны коннік.



**«Беларускі дзень» у КШ н-р 3 у Гайнаўцы**

*Замкі і палацы Беларусі*

# АБАРОНЧАЯ ЦАРКВА Ў СЫНКАВІЧАХ

Нядаўна, калі ў Сынкавіцкай царкве праводзілі рэстаўрацыю, на сцяне быў знойдзены аўтограф Вітаўта. Знаходка патрапіла ў тон ранейшых здагадак, якія прыпісвалі месцу.

Падзеі датычаць 1377 года. Пасля смерці князя Альгерда на трон у Вялікім Княстве Літоўскім прэтэндавалі князь Кейстут і яго сын Вітаўт. Супраць праекта рашуча выступаў іх сваяк Ягайла. Ён заманіў свайго дзядзьку і дваюраднага брата ў Крэва, кінуў іх у астрог і хацеў забіць. Князь Кейстут загінуў у таемных абставінах, а Вітаўту, пра што мы ўжо пісалі раней, пашанцавала збегчы. Як памятаеце, князь пераапрануўся ў жаночыя апранахі.



Пасля гэтага здарэння ён праз нейкі час жыў пры Сынкавіцкай царкве, дзе разам з паплечнікамі рыхтаваўся да новага змагання.

Напраўдзе, ніхто не ведае, калі збудаваная царква ў Сынкавічах. Аднак, калі ўлічыць гісторыю князя Вітаўта, дык яна існавала ўжо ў другой палове чатырнаццатага стагоддзя. Царква ў Сынкавічах мае абарончы характар. Сцены царквы тоўстыя на 1,5 метра, а па карнізе знаходзіліся байніцы для стралкоў. Будоўля вытрымала многія абстрэлы і варожыя паходы. Яна таксама, як усе цэрквы Беларусі, мяняла канфесійную прыналежнасць. У сваёй гісторыі раз служыла праваслаўным, другі раз — каталікам, іншы раз — уніятам. Сёння Сынкавіцкая царква вярнулася да першакрыніц, тут моляцца праваслаўныя вернікі.

Паколькі будоўля знаходзіцца непадалёк Жыровіцкага манастыра, сюды часта заязджаюць паломнікі.

**ЗОРКА**

Вершы Віктара

# Шведа



## Які стаж?

Вярнуўся з заняткаў
Сынок доўгаваласы
І ўбачыў, што яго татка
Змывае ў кухні посуд.

- Ці ты сказаць гатоў
Мне татулька прама:
Колькі ўжо гадоў
Служыш у нашай мамы?

## Жыццё ідзе па вадзе

Настаўнік кажа: - Дзеці,
Жывем на божым свеце,
На зямлі, як людзі,
І працаваць тут будзем.

Вучань Ясь азваўся так:
- У будучыні - я марак.
Жыццё на сушы вам ідзе,
Маё, вядома, на вадзе.

# Польска-беларуская крыжаванка № 5-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 1-17:**

Ліра, смак, шакалад, маладзік, джала, Рыгор, рака, наша, ода, рад. Ядро, душ, амар, скала, малако, Ала, кадр, дзын, Ігар, раскоша, Ас, рад.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Вольга Кардаш, Томэк Ваўранюк, Вольга Хіліманюк, Мая Тапалянская** з Нарвы, **Зузанна Мішчук, Віялета Смалюк** з Арэшкава, **Рафал Вакулюк, Наталля Гайдук, Віктар Лінк, Аляксандра Бакун** з Гайнаўкі. Віншуем!



# Святочным канцэртам захапілі публіку

Пачатковая школа ў Арэшкаве паспяхова рэалізуе свае адукацыйныя задачы і адначасна выходзіць з прапановамі да жыхароў сваёй вёскі і наваколля. На трэці дзень Хрышчэння Гасподняга, 21 студзеня, Арэшкаўская школа арганізавала святочны канцэрт, падчас якога славілася Хрыстовае Нараджэнне, выконваліся паралітургічныя творы і свецкія песні, а вучні таксама запрэзэнтавалі многа сучасных танцаў. Перад публікай у гімнастычнай зале займальна запрэзэнтаваліся вучні арэшкаўскай школы, дзеткі, моладзь і дарослыя хору Уазнясення Гасподняга ў Арэшкаве.

— У нашай школе ладзяцца шматлікія мерапрыемствы. У канцы мінулага школьнага года мы арганізавалі юбілейнае мерапрыемства, на якое прыбылі выпускнікі нашай школы, былыя настаўнікі і мясцовае насельніцтва. Сёння можна паглядзець выставу фатаграфій з гэтай імпрэзы. Школьны калектыў «Вясёлыя ноткі» дзейнічае ўжо 5 гадоў. У яго рэпертуары многа калядак, беларускіх песень, з якімі выступае на конкурсах «Беларускай песні» і іншых твораў. Мы падумалі, што добра было б, каб гэты калектыў і калектыў малодшых вучняў «Звёздачкі», а таксама іншыя вучні, запрэзэнтаваліся перад мясцовай публікай зімой, у святочны перыяд. Нашу ідэю падтрымаў настаяцель прыхода ў Арэшкаве протаіерэй Лявонцій Анхім, які працуе таксама настаўнікам у нашай школе і прыхадскі хор, у якім спяваюць выпускнікі нашай школы і нават старэйшыя нашы вучні. Мы рашыліся арганізаваць святочны канцэрт, падчас якога будуць спявацца калядкі, свецкія песні і вучні будуць танцаваць, — сказала Тамара Крайнік, дырэктар Пачатковай школы ў Арэшкаве, у якой зараз вучыцца 21 вучань і займаецца 6 дашкольнікаў.

Гімнастычная зала была прыгожа аздоблена дзеля святочнага перыяду і святочнага, навагодняга канцэрта. Перад святамі Раства Хрыстовага, 3 студзеня, у Арэшкаўскай школе традыцыйна была наладжана Куцця. Вучні падрыхтаваліся пад наглядам настаўніцы беларускай мовы Ірэны Герасімюк і ўдала запрэзэнтавалі па-беларуску калядное прадстаўленне «Каляды».

— Нашы вучні на беларускай літаратурнай мове запрэзэнтавалі «Куццю» з посным сталом і першы дзень святкавання Нараджэння Хрыстовага, з калядаваннем і пачастункам каляднікаў. Сёння нашы вучні заспяваюць калядкі з гэтай каляднай інсцэніроўкі, — сказала настаўніца Ірэна Герасімюк.

Падчас школьнай Куцці калядавалі таксама іншыя вучні, а пазней усе дзеткі, іх бацькі і настаўнікі, з протаіерэем Лявонціем Анхімам, спажывалі посныя стравы і за сталом спявалі калядкі. Ужо ў святочным настроі спаткаліся 21 студзеня жыхары Арэшкава і навакольных мясцовасцей, каб прыняць удзел у святочным, навагоднім канцэрце. Дырэктар школы Тамара Крайнік вітала сабраных, сярод якіх былі настаяцель прыхода ў Арэшкаве протаіерэй Лявонцій Анхім, адказная ў Гміннай управе ў Гайнаўцы за справы асветы Галіна Шыманюк, якая перадала сабраным пажаданні ад войт Гайнаўскай гміны Люцыны Смактуновіч і дырэктар Дома сацыяльнай дапамогі ў Гайнаўцы Зінаіда Балтрамюк. Першымі цікава запрэзэнтаваліся з рэквізітамі дашкольнікі, якіх да выступаў падрыхтавала настаўніца Агнешка Семян. Вучні запрэзэнтавалі многа сучасных танцаў, а падрыхтавалі іх да выступаў настаўніцы Анета Алексяюк і Каміля Плева. Калядкі заспявалі малодшыя вучні з калектыву «Звёздачкі», якімі апякуецца Марта Вэршка, настаўніца музыкі і англійскай мовы. Займальна калядавалі старэйшыя вучні з калектыву «Вясёлыя ноткі», які паспяхова дзейнічае пад наглядам настаўніцы Марты Вэршка. «Вясёлыя ноткі» ў мінулым годзе занялі першае месца ў школьнай катэгорыі Фестывалю «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай», а сёлета ў гэтых сустрэчах атрымалі вылучэнне.

— Адны дзеткі ёсць больш здольнымі да спявання, а другія менш і трэба многа займацца, каб усіх навучыць правільна спяваць, — заявіла настаўніца і апякун калектываў Марта Вэршка.

— «Вясёлыя ноткі» ў конкурсе «Беларуская песня» займалі розныя прызавыя месцы і ўдала выступаюць на школьных мерапрыемствах, у якіх часта прымаюць удзел бацькі нашых вучняў. Марта Вэршка падрыхтавана, каб весці музычныя калектывы. Закончыла яна Музычную школу першай ступені ў Бельску-Падляшскім, адкуль даязджае да нас на працу ў Школу псаломшчыкаў у Гайнаўцы і ўмее перадаць свае веды і музычныя ўмеласці сваім вучням, — заявіла дырэктар Тамара Крайнік. — У нашай школе асабліва ўрачыста праходзіць Дэкламатарскі конкурс на беларускай мове «Роднае слова», да якога нашы вучні масава прыступаюць. Частка з іх дабіваецца поспехаў на раённых, а пасля на цэнтральных элімінацыях гэтага конкурсу, а паспяхова рыхтуе іх настаўніца беларускай мовы Ірэна Герасімюк.

Канцэрт праходзіў у святочнай атмасферы, а спевы і танцы ў выкананні вучняў вельмі спадабаліся публіцы, якая седзячы і стоячы запоўніла гімнастычную залу і ўзнагароджвала выступоўцаў апладысментамі. Вучні заявілі, што сёлета калядавалі падчас святкавання Раства Хрыстовага ў невялікіх групах, а жыхары Арэшкава сказалі, што наведвала іх хаты многа груп маладых каляднікаў, так што традыцыя калядавання не знікае.

— Калі мы былі дзеткамі, калядавала ў Арэшкаве многа груп каляднікаў. Запамяталася нам таксама наша калядаванне падчас святкавання Хрышчэння Гасподняга. Гаварылі мы тады ў хатах Арэшкава тэкст пра Панну Марыю, якіканчаўся словамі «На тобе хрыстка, дай нам піражка!» і раздавалі мы тады гаспадарам галінкі з засушанымі дубовымі лісткамі, якія называліся «хрыстком». Гэтая традыцыя раздачы дзеткамі «хрысткоў» прадаўжалася ў нас да пяцідзясятых і шасцідзясятых гадоў, а пасля знікла, — сказалі Надзея Грушэўская і Марыя Скепка, якія ў свой час удала расслаўлялі Арэшкава, спяваючы ў славутым калектыве «Арэшкі». На падставе аповедаў старэйшых жыхароў Арэшкава Музей малой айчыны ў Студзіводах і яго калектыў «Жэмэрва» аднавілі абрад калядавання падчас Хрышчэння Гасподняга менавіта ў Арэшкаве.

— «Арэшкі» ўжо не спяваюць ні свецкіх песень, ні калядак, бо мы спынілі сваю дзейнасць. Аднак мы прадаўжалі спяваць у нашым царкоўным хоры, які апошнім часам сталі папаўняць штораз малодшыя асобы. Калі багаслужбы адбываюцца па-за выхаднымі днямі, нашы моладзь і дзеткі з царкоўнага хору вучацца або працуюць прафесійна. Тады мы, найстарэйшыя харысткі, спяваем у царкве разам з дырыжорам Евай Сураль з Ягаднік. Затое моладзь і дзеткі з нашага хору выступаюць з калядкамі і царкоўнымі творамі падчас аглядаў, — дабавіла Надзея Грушэўская, якая многа гадоў кіравала калектывам «Арэшкі».

Пасля выступаў вучні пайшлі на другі паверх, у класныя кабінеты, каб там у сваім коле адзначаць школьную «ёлку». Маладыя асобы прыхадскога хору на высокім мастацкім узроўні выканалі калядкі і выбраныя паралітургічныя творы.

— Раней прыхадскім хорам кіравала Кацярына Баравік, а пасля першым голасам спявала Надзея Грушэўская, а за ёй спявалі іншыя харысты (спяваюць з «Арэшкаў» у хоры яшчэ Марыя Скепка і Ніна Аўярчук). Калі дырыжорам хору стала Ева Сураль, на рэпетыцыі хору сталі хадзіць маладыя асобы, якія спяваюць зараз на высокім мастацкім узроўні, — сказаў настаяцель прыхода ў Арэшкаве протаіерэй Лявонцій Анхім.

— Я працую з мясцовым хорам звыш двух гадоў. Жанчыны з былога калектыву «Арэшкі» і іншыя старэйшыя асобы важныя для нашага хору, бо спяваюць на багаслужбах па-за нядзелямі, калі ёсць мала або няма маладых спевакоў. Нашы харысты, якія сёння выступілі тут, гэта ў асноўным маладыя мамы з дочкамі і вучні. Два гады назад наш хор, які саставілі маладыя харысты, заняў трэцяе месца ў катэгорыі вясковых прыхадскіх хароў падчас Міжнароднага фестывалю «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі» і ў гэтым годзе наш хор таксама рыхтуецца да фестывалю. Сёння наш хор будзе яшчэ спяваць калядкі ў святліцы ў Новым Беразове, побач іншых царкоўных хароў, — сказала дырыжор царкоўнага хору Ева Сураль.

Настаўніца беларускай мовы Ірэна Герасімюк паінфармавала, што сёлета ўсе навучэнцы беларускай мовы, а толькі адзін вучань не вучыцца па-беларуску, хочуць прыступіць да школьнага этапу дэкламатарскага конкурсу на беларускай мове «Роднае слова».

— Я для малодшых дзетак арганізавала ў школе тэатральны кружок, падчас якога вучні развучваюць кароткія сцэнкі і выступаюць з імі перад сябрамі. Аднак мы хочам паказацца таксама з інсцэніроўкамі па-беларуску перад усёй школьнай публікай, — паінфармавала настаўніца Ірэна Герасімюк.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**







Вучні калектыву «Вясёлыя ноткі» з дырыжорам Мартай Вэршка



Хор прыхода Уазнясення Гасподняга ў Арэшкаве запрэзэнтаваў калядкі і паралітургічныя творы



Публіка заняла сядзячыя месцы і стаяла вакол іх. У цэнтральным месцы сядзіць настаяцель прыхода ў Арэшкаве протаіерэй Лявонцій Анхім, а злева ад яго – дырэктар школы Тамара Крайнік, адказная ў Гміннай управе ў Гайнаўцы за справы асветы Галіна Шыманюк і дырэктар Дома сацыяльнай дапамогі ў Гайнаўцы Зінаіда Балтрамюк. На першым плане настаўніцы Ірэна Герасімюк і Анета Алексяюк)

# Падарожжа
## часткова віртуальнае

**Вікіпедыя: „Беласток — буйны транспартны вузел. Чыгункі ідуць адсюль у пяці напрамках: на Гродна, Варшаву, Баранавічы, Брэст, Граева. Аўтамабільныя магістралі злучаюць Беласток з Гроднам, Ваўкавыскам, Варшавай, Сувалкамі, Ломжай, Люблінам”. Гожа напісана, сама паэзія. Да гэтага варта дадаць крыху прозы, што ў Беластоку няма трамвая, няма метро, няма пасажырскага аэрадрома. І нядаўна нават было праведзена апытанне мясцовага насельніцтва, ці патрэбны яму рэгіянальны аэрадром. І крыху насельніцтва выказала свой vox populi, што рэгіянальны аэрадром яму патрэбны. А калі б было апытанне, ці ў Беластоку патрэбны марскі порт або касмадром, дык таксама знайшоўся б народ, якому гэтыя транспартныя станцыі паказаліся б патрэбнымі. А па тым што ёсць, па чыгунках і аўтамагістралях, ганяюцца транспартныя сродкі, асабліва ж аўтамабілі, у тым ліку і не надта люднага публічнага транспарту, у тым ліку і ў напрамку згаданага Любліна.**



Ваенны мемарыял у Мілейчычах

Выбіраюся адносна рана, пасля восьмай гадзіны, у напрамку Любліна. Толькі што маршрутка, якая паводле раскладу павінна выехаць з Беластока сямнаццаць мінут пасля восьмай, адпраўляецца з нейкага не надта вядомага прыпынку ў горадзе, а не з-пад аўтаваказала. Тады паскорваю свой выезд і выбіраю ранейшую маршрутку, якая адпраўляецца дзесяць пасля сёмай, але з вядомага аўтавакзала. І тут нечаканасць: не паэзія, не проза, а літаральная драма — няма ўжо ў Беластоку і аўтавакзала; аўтавакзальны будынак, які яшчэ не так даўно ірдзеў святлом быццам навагодняя ёлка, цяпер ахутаны цемрай як елка ў цёмным лесе. З ранейшых дваццаці чатырох ад'язных стаянак ужыткуюцца можа пяць, а іх нумарацыя зусім выпадковая, быццам шчаслівыя нумары ў „таталётку”. Ад прывакзальных будыначкаў з хуткай ежай асталіся адно падмуркі...

Удаецца мне забрацца ў „сваю” маршрутку. Едзе яна сабе па Беластоку, але не спыняецца каля старой электрастанцыі, дзе звычайна спыняліся дагэтуль усе аўтобусы публічнага транспарту, што пазней калясяць „магістралямі” ў бок Ваўкавыска і Любліна. „Мая” маршрутка пад'язджае на прыпынак за вуліцай Мілаша, дзе яе ніякі пасажыр не чакае. Мабыць размеркавальнікі беластоцкіх прыпынкаў загарадных аўтобусаў парупіліся пра максімальны камунікацыйны „парадак” з іх пункту гледжання, што раўназначнае максімальнаму камунікацыйнаму хаосу з пункту гледжання пасажыраў, шмат якіх будавала калісь „другую Польшчу” і цяпер з нямоглай настальгіяй успамінае час сваёй маладняцкай бадзёрасці, таўкучны аўтавакзал пры Юравецкай, адкуль выязджалі аўтобусы ва ўсіх напрамках; а цяпер нямогламу чалавеку прыйшлося б шукаць адпраўных пунктаў аўтобусаў у напрамку Любліна як ветру ў полі...

Разважаў я яшчэ і іншы варыянт свайго падарожжа — заехаць у Бельск поездам і на тамашнім вакзале чакаць аўтобуса ў напрамку Любліна. Перад бельскім аўтавакзалам пакуль пяць адпраўных стаянак, хаця рух цяпер там такі, што хапіла б і адной. Як у Саколцы ці Гайнаўцы...

Высаджваюся ў Дзядковічах і шпару ў Чорную-Вялікую, дзе два дні раней пакінуў свой байк. Мае добрыя гаспадары Марыя і Віталь Лубы старамясцовым абычаем гасцінна частуюць мяне. Яшчэ непрацяглая гутарка і адпраўляюся ў сваю дарогу, у напрамку Мілейчыч, бліжэй чыгункі, бліжэй Беластока. Надвор'е сонечнае, лёгкі мароз — аптымальныя ўмовы для байкавання.

У лесе перад Паканевам заўважаю элемент ландшафтнага дызайну — аўтамабільную шыну высока пакладзеную на сасновы сук, мо пяць метраў над зямлёй і каля трох метраў ад ствала. Гэты асаблівы твор ландшафтнага мастацтва выкананы мабыць з прымяненнем трактарнага элеватара. Можа каму здацца, што творы мастацтва выкананы толькі артыстамі з вядомымі ў свеце прозвішчамі, напрыклад Магдаленай Абаканові ці Марынай Абрамавіч, і паказваюцца толькі ў славутых музеях Нью-Йорка ці Амстэрдама.

А мне здаецца, што і ананімныя творцы здольныя стварыць нечаканыя шэдэўры ў цалкам ананімных месцах...

У Мілейчычах вітае мяне вуліца святой Варвары. Пра гэтую святую вядома, далікатна кажучы, вельмі мала. Жыла яна быццам у III стагоддзі, але пакланенне ёй пачалося каля чатырох стагоддзяў пазней. І ёсць разыходжанні наконт яе месца пражывання: паводле адных крыніц яна жыла ў Сірыі, паводле іншых — у Егіпце, Турцыі, Італіі... Вікіпедыя: „Ze względu na wątpliwą historyczność podczas reformy katolickiej liturgii w 1969 ograniczono jej cześć jedynie do kultów lokalnych, zaś imię usunięto z litanii świętych Kościoła powszechnego. W Kościele prawosławnym nadal jest



Арыгінальны твор ландшафтнага мастацтва каля Паканева

powszechnie czczona”. Цалкам магчыма, што яна была такім жа бытам, як надта папулярнае зараз у Найяснейшай «мацарства» Сан-Эскабар... Паводле прынятых догмаў святая Варвара з'яўляецца заступніцай усіх тых, што маюць дачыненне да агню. „Праваслаўная энцыклапедыя”: „За молитвенной помощью к В. обращаются в опасности внезапной смерти или при угрозе от огня. Она считается покровительницей шахтеров и артиллеристов. В 1995 г. В. стала небесной покровительницей Ракетных войск стратегического назначения РФ, а в 1999 г. ее икона, находящаяся в наст. время в Самарском епархиальном музее, по благословению Святейшего Патриарха Московского и всея Руси Алексия II побывала на борту орбитальной станции «Мир»”. Партал адной з астралэнцкіх парафій: „Barbara jest ponadto patronką archidiecezji katowickiej, Edessy, Kairu; architektów, cieśli, dzwonników, kowali, ludwisarzy, murarzy, szczotkarzy, tkaczy, wytwórców sztucznych ogni, żołnierzy (szczególnie artylerzystów i załóg twierdz)”. Здараюцца парталы, якія падказваюць, што яна з'яўляецца таксама заступніцай тэрарыстаў...

У Мілейчычах быў я адносна даўно. З таго часу з'явілася там крама „Архелана”, у якой прыстойны рух; на рух у іншых тамашніх крамах я не ўглядаўся... Спадзяваўся я крыху, што можа даўняя сінагога атрымала нейкае дыханне, але яе вокны надалей забіты дошкамі.

Партал „Штэтл”: „Liczba Żydów w Milejczycach rosła, w 1878 r. było ich 627 na 1588 mieszkańców. Niedługo przed wybuchem II wojny światowej, w 1935 r., było ich 894 na 2000 mieszkańców. Po 17.09.1939 r. liczba Żydów wynosiła 1275”. Стэнд: „W 1939 roku Milejczyce znalazły się pod okupacją sowiecką, a od 22 czerwca 1941 niemiecką. Niemcy w mieście zorganizowali getto, w którym zgromadzili 1250 osób z Milejczyc i Nurca. Getto istniało do 5 listopada 1942 roku, kiedy to nastąpiła akcja likwidacyjna. Wszystkich Żydów przesiedlono do getta w Kleszczelach, a następnie do Białegostoku. W tym czasie dawna dzielnica została w dużej części zburzona — zniszczeniu uległo 90 domów pożydowskich. W sierpniu 1943 roku Żydzi milejczyccy zostali wywiezieni do obozu zagłady w Treblince”.

Побач сінагогі інфармацыйны стэнд пра мілейчыцкае мінулае. 14 мая 1516 года Мілейчычы атрымалі гарадскую прывілею ад караля Жыгімонта Старога, каб кароль мог прыстойна спыніцца ў дарозе між Мельнікам і Бельскам. Стэнд інфармуе, што 20 жніўня 1920 года каля Мілейчыч разыгралася другая па значэнні бітва ў рамках „цуду над Віслай”, дзе польскія кавалерысты захапілі ў бальшавіцкіх артылерыстаў 22 вялікія гарматы і сотку вазоў; святая Варвара не надта папупілася пра сваіх падапечных. У днях 20-22 ліпеня 1944 года каля Мілейчыч праходзілі цяжкія савецка-нямецкія баі, у выніку каля тысячы шасцісот савецкіх жаўнераў пахавана ў брацкіх магілах.

У Мілейчычах аставалася мне звыш трох гадзін да адпраўлення ў Беласток цягніка з недалёкай адтуль Чаромхі, таму я рашыў скарыстаць той шмат часу дзеля разведкі шырэйшага наваколля. Едучы ў Дзядковічы прыкмеціў я, што каля Кнарыд стаяць ужо сцены адбудоўванай пасля пажару капліцы; задумаў я падацца туды, спадзяючыся прынагодна знайсці і краснасельскую капліцу, да якой не ўдалося мне трапіць восенню...

Спярша заглянуў я на мілейчыцкія ваенныя могілкі, дзе спачылі савецкія байцы пасля згаданых цяжкіх баёў улетку 1944 года; нядаўна ж там былі знішчаны фрагменты мемарыяла. Зараз тыя могілкі акуратна абноўлены і памяць загінулых байцоў належна ўшанаваная. Бо іх баявыя таварышы, у тым ліку артылерысты і сапёры, перамаглі. Аднак, здаецца мне, што апякунчая ўвага святой Варвары засяродзілася толькі на пераможцах, бо тыя артылерысты, што прайгралі апошнюю вайну, што былі кінуты на змаганне за больш аэрадромаў, марскіх партоў і чыгуначных станцый для свайго ненасытнага камандавання, здаюцца быць у нас зусім забытымі; інакш справы выглядалі ў час Першай сусветнай вайны...

Далей пакалясіў я цераз Сасіны, Снежкі, Малочкі, Паўлінова і Чахі-Забалотныя ў бок Краснага Сяла. Між Чахамі і Шашыламі мужчына расчышчаў закіданую голлем пратоку. „Нашы ўлады больш дбаюць пра баброў чым пра сялян”, — заўважыў ён. Сімвалам працавітасці лічацца ў нас пчолы ці мурашкі, аднак і бабры нястомна будуюць свае водныя харомы, зацягваючы пратокі ўсемагчымым голлем і ў выніку заліваюць пашы і сенажаці.

Спытаў я свайго суразмоўцу пра краснасельскую капліцу, а ён гатовы быў мяне туды завезці на сваім трактары, бо ён жа яе і нядаўна абнаўляў; я адмовіўся, спасылаючыся на нястачу часу. І паехаў у бок Кнарыд, і едучы па замерзлым пясочку пачаў я ўсведамляць, што мае часавыя рэсурсы трывожна скараціліся, што нават ужо не ўспею пабачыць сцен новай капліцы каля Кнарыд, бо ж поезд з Чаромхі ўжо ў дарозе. І з Кнарыд адразу павярнуў у бок Падбелля. Дарожны паказальнік паказаў два кіламетры ў Мокрае, толькі тое Мокрае не так мокрае як доўгае — тры кіламетры працяглаці вёскі. Дагнаўся да бельскадубяжынскай шашы, там мне заставалася дзесяць мінут да ад'езду поезда з Падбелля. Рвануў я зноў рэшткамі сіл; мінуўшы падбельскую царкву пачуў недалёкі гудок цягніка. „Не ўспееў”, — падумаў, але па інерцыі прадаўжаў змаганне з ручаіса часапрасторай. І адначасна з поездам завітаў на падбельскі перон; як у савецкім геройскім фільме, як у амерыканскім вестэрне...

А ў поездзе чарговая нечаканасць: кандуктар заявіў, што мусіць знайсці ў сваіх фондах месца для веласіпеда — чаго ж нашы чыноўнікі не прыдумаюць! Бывала ж яшчэ не так даўно, што веласіпедаў грузілі ў той поезд з Чаромхі столькі, што ледзь можна было прабіцца ў вагон звычайнаму пасажыру. А тут раптам адзін-аднюсенькі веласіпед і такая праблема; але, пакуль поезд даехаў да Бельска, кандуктару ўдалося знайсці майму веласіпеду месца ў чыгуначных віртуальных фондах. Бо ў віртуальных фондах можна знайсці ўсё, не толькі дзяржаву святога Эскабара...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Пра страты і вяртанні

**Ёсць паэты, якія пішуць вершы нібыта па графіку, напрыклад, два вершы ў дзень. І лічаць, што гэта іх дысцыплінуе і станоўча ўплывае на творчае сталенне і развіццё. А ёсць, якія па некалькі вершаў у год — толькі тады, калі не напісаць не могуць, калі хочуць сказаць нешта істотнае і важнае, калі верш сам просіцца да жыцця.**



Андрэй Сцепанюк належыць да другіх. Вось і першая кніга паэта, які дэбютаваў яшчэ пры канцы васьмідзясятых гадоў, атрымалася невялікай і, можна сказаць, прасеянай ад непатрэбнага і дробнага жыццём і глыбокім роздумам аўтара. Так бы мовіць, кніга пра самае галоўнае.

І што для паэта самае галоўнае? Наколькі я зразумеў — страты і вяртанне. Бо сапраўды жыццё — гэта перш за ўсё страты. Штодзень мы страчваем дзень жыцця. Страчваем уражанні, думкі, мясціны, якія наведваем, блізкіх, любімых і проста знаёмых людзей. Але так уладкаваны чалавек, што ён можа вяртаць і вяртацца. Хаця б у думках. Характэрны ў гэтым сэнсе верш „Лістапад", у якім аўтар згадвае пачуцці і настрой наведвання родных магіл у Кленіках. І гэты рэфрэн, што „на аўтобусе не даедзеш у рай", які прамаўляе сталая жанчына, пасажырка аўтобуса, як бы ўзмацняе пачуцці аўтара і асэнсаванне часовасці на Зямлі, адказнасці за гэтую дазволеную часовасць.

Сцепанюк заклікае аднойчы забыцца на ўсё тлумнае і друганснае і „пайсці да цябе". Пакуль ёсць час і сілы. Гэта можа быць і любімая жанчына, і блізкі чалавек, і нават Радзіма. Да Радзімы таксама трэба ўмець дайсці. Не ў кожнага гэта атрымліваецца.

я іду да цябе і штораз лепш ведаю
што дарога мая ніколі не канчаецца
і ты не скажаш што я ўжо прыйшоў

Прызнаецца паэт пра сваё чарговае адкрыццё. Бо нельга прыйсці і сказаць: усё — я прыйшоў. Бо дарога гэтая бясконцая.

Варта крыху паразважаць і пра паэтычныя карані верлібраў Андрэя Сцепанюка. Відавочна, што значны ўплыў на яго аказала паэтыка Алеся Разанава. У зборніку не пазначаны гады напісання вершаў, але мяркую, што менавіта раннія вершы Сцепанюка больш „разанаўскія", перш за ўсё ў структурнай пабудове, калі верш ствараецца сэнсамі, знакамі і сімваламі. Бо якраз у пару паэтычнага сталення Сцепанюка беларуская моладзь Беласточчыны захаплялася вершамі Разанава і нават выдала некалькі яго зборнікаў па-польску. Ну а другім важным настаўнікам Сцепанюка я назваў бы бельскую паэтку Надзею Артымовіч. У адрозненні ад Разанава Артымовіч стварае вершы пераважна вербальна, то-бок не шукае філасофскіх сэнсаў, а ўслухоўваецца ў шолахі і ўглядаецца ў імгненныя вобразы. Выглядае, што Андрэй Сцепанюк абраў свой творчы шлях недзе паміж паэтычнымі рэчышчамі сваіх настаўнікаў. Ён не заглыбляецца ў метафізіку філасофскіх сэнсаў, але і не летуценіць сярод імгненных вобразаў. Ён знаходзіць паэзію часам у будзённых справах і думках, у развагах пра Радзіму, ва ўспамінах пра сяброў, у няспешным жыцці свайго роднага Бельска-Падляшскага.

Ну і варта адзначыць што сам па сабе першы паэтычны зборнік Андэя Сцепанюка можна залічыць да мастацкага твора — гэтак дыхтоўна і канцэптуальна ён выдадзены. Над кнігай працавалі лепшыя дызайнеры беларускага Падляшша — Юрка Асеннік і Павал Грэсь. Падзяку заслугоўвае і Праграмная рада тыднёвіка „Ніва", якая выступіла выдаўцом кнігі.

**Алесь АРКУШ**




Выдавецтваў, якія спецыялізуюцца на выданні беларускамоўных кніг, у Беларусі лічаныя адзінкі. Аднак менавіта іх існаванне сведчыць аб тым, што іх праца запатрабаваная і таму дзейнасць мае добрыя перспектывы. Адным з такіх з'яўляецца выдавецтва „Янушкевіч", сайт якога месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://januskevic.by**.

Галоўная старонка сайта выглядае вельмі прывабліва. Уверсе разам з назвай месцяцца выйсці на рубрыкі. Згодна з усталяванымі ў апошнія гады традыцыямі ў сайтабудаванні, тут няма дзялення на тры ці дзве часткі. Каб пабачыць галоўную старонку цалкам, варта „пракруціць" яе зверху ўніз.

Пад выйсцямі да рубрык, якіх, дарэчы, не надта многа, знаходзіцца стужка з малюнкаў кніг і невялікіх анатацый. Іх усяго чатыры і яны аўтаматычна змяняюцца адзін за адным.

Рубрыка „Каталог" ідзе першай у пераліку выйсцяў. Там размешчаны кнігі, сістэматызаваныя па трох накірунках — гісторыі, мастацкай літаратуры і тыя, якія з'явіліся нядаўна, таму выдавецтва прэзентуе іх як анонсы. Дарэчы, анонснымі могуць стаць і кнігі, напісаныя для наведвальнікаў сайта, калі яны закажуць іх выданне ў „Янушкевіча". Пра тое, як гэта зрабіць, расказваецца ў рубрыцы „Выдаць кнігу". Там распавядаецца, колькі каштуе макетаванне і друк, а таксама передвыдавецкая падрыхтоўка.

Як належыць камерцыйнай фірме, выдавецтва прапануе зараз выдаць кніжку са зніжкай. Для тых, каму цікава такое хуткае выданне, будзе карысна зазірнуць у рубрыку „Акцыі".

Адметна, што праца „Янушкевіча" стаіць на сур'ёзным ідэйным грунце. „Нашу місію можна адлюстраваць у некалькіх словах — набліжаць гісторыю і літаратуру да людзей. Мы імкнемся развіваць у Беларусі жанр non fiction, вельмі папулярны ва ўсім свеце. Нашы кнігі па гісторыі напісаны сапраўднымі навукоўцамі, якія адказваюць за свае словы працяглым вывучэннем крыніц у архівах і бібліятэках. Аднак мы не спыняемся толькі на гістарычнай тэматыцы. Насамрэч місія шырэйшая — пашыраць культурную прастору беларускай кнігі, зацікаўліваць ёю як мага большае кола чытачоў ва ўсім свеце. Таму мы займаемся выданнем і цікавай арыгінальнай мастацкай літаратуры", — запэўніваюць наведвальнікаў сайта яго ўладальнікі на старонцы „Пра нас" у рубрыцы „Наша місія".

Там жа мы можам пазнаёміцца з водгукамі аб супрацоўніцтве з выдавецтвам нейкіх людзей, якія пазначаныя толькі імем і прозвішчам. Зразумела, водгукі носяць выключна пазітыўны характар, ніякай крытыкі там няма.

Для патэнцыйных пакупнікоў кніг у данага выдавецтва карысным будзе наведаць рубрыку „Пытанні — адказы". Адтуль можна даведацца пра магчымасць дастаўкі тавару за межы Беларусі і магчымасць вярнуць неўпадабаную кнігу.

Згодна з пададзенай інфармацыяй на старонцы „Нашы аўтары", за час існавання выдавецтва там друкаваліся кнігі дванаццаці асоб. Праўда, паколькі невядома, як даўно яно існуе, цяжка сказаць, вялікая ці малая гэтая колькасць.

А вось пра час з'яўлення ўласна сайта выдавецтва — снежань 2016 года — можна даведацца з беларускай незалежнай прэсы. „Нізкія кошты і высокая якасць выканання кніг прывабяць нават самага прыдзірлівага пакупніка", — дапамагае рэкламаваць „Янушкевіча" штотыднёвік „Наша ніва".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

### Беларускі патрыёт з Лідчыны



# 95 гадоў з дня нараджэння Янкі Жамойціна

Беларускі пісьменнік, публіцыст, літаратурны крытык, грамадскі дзеяч Янка Жамойцін нарадзіўся 28 студзеня 1922 г. у мясцовасці Клімавічы (каля вёскі Голдава, Лідскі раён). Вясковая сям'я, якая вярнулася з бежанства незадоўга да нараджэння Янкі, мела мянушку „Бацыны". Маці была краўчыхай, бацька ў няпростых умовах вёў гаспадарку. У сям'і было 6 дзяцей, адзін з якіх — Андрэй — пазней стаў святаром. На пачатку 1930-х гг. бацька быў пазбаўлены невялікай пасады і сям'я зазнала нястачу. Сам Янка захварэў на жаўтуху, якая дала вельмі негатыўныя наступствы, хлопчык ледзь не памёр.

Пачаў вучыцца Жамойцін у польскай пачатковай школе ў суседніх Ігнаткаўцах. У 1929-1936 гг. вучыўся ў школе ў Скрыбаве і Шчучыне. У Шчучыне ён жыў у настаўніка-беларуса па прозвішчы Гулько, школа была ў кляштары піяраў. У 1936-1939 гг. вучыўся ў польскай гімназіі ў Варшаве. Вучыцца там было вельмі цяжка, жыў у інтэрнаце. На канікулах дома нечакана даведаўся, што выключаны з варшаўскага праваслаўнага мітрапольнага інтэрната. У 1939-1941 гг. вучыўся у савецкай дзесяцігодцы ў Лідзе. Там жа напісаў свой першы артыкул у газету „Уперад".

У час Другой сусветнай вайны на акупаваней гітлераўцамі тэрыторыі займаўся арганізацыяй навучання дзяцей на беларускай мове ў Лідскай акрузе. Працаваў настаўнікам у вёсцы Касілаўцы, быў дырэктарам чатырохкласнай беларускай школы. У верасні 1942 г. паступіў на апошні курс сярэдняй школы ў Навагрудку. Там знайшоў сабе сапраўдных сяброў-аднадумцаў. У 1943 г. кіраўніцтвам Беларускай незалежніцкай партыі накіраваны ў Саюз беларускай моладзі. Удзельнічаў у працы Другога Усебеларускага кангрэса ў Менску.

У ліпені 1944 г. пакінуў Беларусь, быў у Германіі ў розных лагерах — на ўскрайку Берліна, у Кёльне, у канцы вайны быў у Дэсаў. У 1945 г. пераехаў у Польшчу, жыў у Рыпіне. Арыштоўваўся ў лістападзе 1945 г. органамі МГБ, быў зняволены, падвяргаўся катаванням. Потым неспадзявана і нечакана быў адпушчаны на волю. Паехаў у гарадок Пшэворск, дзе быў рэпатрыяцыйны пункт. Пазней закончыў у Лодзі прафесіянальны інстытут права і адміністрацыі (1949). У той час ажаніўся з дзяўчынай, якая паходзіла з Югаславіі. У сям'і нарадзіўся хлопчык, якому далі імя Леслаў. Жамойцін планаваў выехаць у Югаславію. У снежні 1949 г. арыштаваны ў Польшчы паўторна, вывезены ў Брэст, потым у Мінск, дзе засуджаны на 25 гадоў савецкага канцлагера. Перад гэтым пракурор патрабаваў расстрэлу. Этапаваны ў канцлагер пад Акмолінскам, потым у Караганду. Вызвалены з ГУЛАГу толькі ў 1956 г. Пераехаў у Варшаву ў 1957 г. Скончыў Варшаўскі ўніверсітэт (1970), атрымаў ступень магістра адміністрацыі. Жыў і працаваў у Варшаве.

Пісаў на беларускай і польскай мовах. Дэбютаваў як літаратурны крытык на старонках „Нівы" ў 1965 г. Яго пяру належаць шматлікія публікацыі пра паэзію беларускамоўных аўтараў Польшчы, артыкул-даследаванне „Шляхам „Іліяды" Гамера" — пра зроблены Браніславам Тарашкевічам пераклад гэтага твора на беларускую мову, шмат рэпартажаў, эсэ, крытычных артыкулаў. Яны друкаваліся ў „Ніве", „Беларускім календары", іншых выданнях у Польшчы. Апублікаваў у 1996 годзе біяграфічную аповесць „З перажытага".

Памёр Янка Жамойцін 25 красавіка 2003 г. пры незвычайных абставінах. Калі ён ехаў у Беларусь, на памежным пераходзе ў Кузніцы сэрца патрыёта спынілася. Пахаваны Жамойцін у Варшаве.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

1 ☞ працяг

## Магдаліна Маліш

што я пішу, было праўдай, каб людзі гэта разумелі, ды не паставіліся да гэтага быццам «песня была, але мы ўжо забылі, пра што яна была, мо музыка была і добрая, але словы толькі пастаянна паўтараліся». Таму і я падумала, што трэба, каб у гэтым была праўда. І я знайшла яе ў Біблії. Прыкладна ў «Золаце», ёсць прадстаўлены біблейны матыў арла, што чалавек можа быць вольны быццам арол — безупынна бегчы, не аставаючыся без ніякіх сіл.

Магда любіць слухаць розныя музычныя жанры. Да ліку гуртоў, якіх творчасць ёй падабаецца, можна прылічыць таксама тыя гурты, якія выступаюць, між іншым, на «Бардаўскай восені».

Магдаліна Маліш:

— У «Босым сонцы» мне падыходзяць як словы, так і музыка — я проста ўсё гэта разумею, гэта добраўспрымальнае. Варта тут напэўна адзначыць і гурт «NAVI». У іх песнях можна адчуць многа радасці, сонца. Яны крыху іншыя чым «Пэрцэпцыя», у якой перш за ўсё ёсць клімат рэфлексіі, бо такую музыку мы творым. Гэта адначасова не абазначае, што мы такія штодзень, але ў нас якраз такі творчы шлях. Мне падабаецца таксама музыка госпел.

«Пэрцэпцыю» можна было пачуць на вышэйзгаданай «Бардаўскай восені». У снежні сваю творчасць прэзентавалі перад вучнямі Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, некалькі разоў выступалі яны ў Бельскім белліцэі, а таксама ў Гарадской бібліятэцы ў Бельску-Падляшскім. Хацелася б сцвердзіць, што зараз ёсць адпаведны час на частыя кантакты гурта са сцэнай, на канцэрты. Аднак не да канца вядомай з'яўляецца будучыня «Пэрцэпцыі».

Магдаліна Маліш:

— Цяжка сёння акрэсліць, як далей будзе выглядаць наша дзейнасць. Вядома, што перад намі шмат спраў, звязаных са штодзённасцю. Я не ведаю ці ў нас будзе магчымасць далей выступаць разам. Час ад часу здараюцца нам нагоды зайграць, як прыкладна ў Оперы і падляшскай філармоніі падчас урачыстасці ўручэння мастацкіх стыпендый таленавітай моладзі. Думаю, што я і Міхал хочам робіць музыку, хочам выступаць. Напэўна можна сказаць, што я хацела б запісаць нейкі міні-альбом, ды нават і альбом. У Міхала сёлета экзамен на атэстат сталасці, ён пэўна і паступіць у вышэйшую навучальную ўстанову, а я застануся ў школе. Ён пачне ўжо такое дарослае жыццё і магчыма, што ў яго нешта памяняецца, што яго дарога пойдзе ў зусім іншым напрамку, далёкім ад музычнага. Наконт сябе ведаю, што напэўна хачу далей спяваць.

На сцэне ў Магды Маліш няма гэтай экспрэсіўнасці рухаў, якая бывае ў розных мастакоў сцэны, але гэта не сімптом няпэўнасці, стрэсу — большасць свайго жыцця яна ж правяла на сцэне. Гэта проста своеасаблівая натуральнасць, якая адначасова з'яўляецца доказам на тое, што варта пастаянна ісці сваім шляхам, праз які вядзе чалавека яго страсць. І пры гэтым дзейнічаць з цэлай упэўненасцю можна таксама ў «сваім родным куце». Насуперак старой прымаўцы ды стэрэатыпу, што хутчэй за ўсё ад старэйшага, ужо сталага ўзросту чалавека можам чагосьці навучыцца, тут павучыцца можам у амаль 18-гадовай Магды.

❖ **Мацей РАЦІНЕЎСКІ**

## Дзесяць вёсак не мае аўтобуса ў Беласток

Ужо паўтара года не ездзіць аўтобус ПКС на трасе з Нараўкі ў Міхалова і ў Беласток цераз Гарадзіска, Плянту, Новае Ляўкова, Старое Ляўкова, Лешукі і іншыя вёскі. Пару гадоў ездзілі яны раніцай, перад поўднем і пасля поўдня. Вучні даязджалі ў сярэднія школы, а старэйшыя ва ўстановы і прадпрыемствы, у якіх знайшлі сабе працу. Выгадна было даехаць у Беласток.

Жыхары дзесяці вёсак Нараўчанскай гміны дамагаюцца, каб хаця адзін аўтобус ездзіў раніцай у Беласток і каб пасля поўдня можна было вярнуцца назад. Ад імя жыхароў вёсак „адрэзаных" ад Беластока выступае з просьбай да кіраўніцтва ПКС у Беластоку радны і солтыс Новага Ляўкова.

У адказ ПКС паінфармаваў радната, што „**ze względu na przebiegający proces inkorporacji PKS-ów województwa podlaskiego przez najbliższe 3-4 miesiące nie są planowane żadne zmiany w obowiązujących w chwili obecnej rozkładach jazdy. (...) Pańska prośba zostanie rozpatrzona w terminie późniejszym po opracowaniu strategii przewozowej nowo powstałej spółki. Wpływ na ewentualne zmiany będzie miała również przeprowadzona analiza przejazdów pasażerów w roku 2016 na linii Białystok-Michałowo-Siemianówka-Hajnówka**".

Дык што ж, прыйдзецца чакаць. Каб толькі не дарэмна.

## Гусцее сетка веласіпедных сцежак

У Беластоку з кожным годам прыбывае веласіпедных сцежак. Цяпер маем іх больш ста кіламетраў. Некаторыя з іх маюць даўжыню да пяці кіламетраў, гэта, між іншым, веласіпедная сцяжынка ўздоўж вуліцы 42 Пяхотнага палка (раней 27 Ліпеня) на жыллёвым пасёлку Выгода. Зараз з пасёлка Выгода ў цэнтр горада даедзем 2-кіламетровай сцяжынкай ад алеі Пілсудскага да вуліцы ген. Андэрса. Новыя трасы для веласіпедыстаў пабудавалі па вуліцах Вярбовай і Канстытуцыі 3 Мая. На некаторых артэрыях дарожкі бягуць намат пабапал вуліц, між іншым, па вуліцы ген. Мачка і ген. Клеберга. Каб было больш бяспечна ехаць, пабудавалі дарожкі над рачулкай Белай пад двума мастамі ўздоўж алеі Ю. Пілсудскага да вуліцы Палацовай (гэта ў цэнтры горада). Сёлета пабудуюць новыя веласіпедныя шляхі. Такія планы мае магістрат. Ён намераны пабудаваць сцежкі, між іншым, пры вуліцы Браніцкага, Радзымінскай, І Арміі Войска Польскага, Пагоднай, Звежынецкай і ген. Берлінга. Пры ўсім гэтым важна для веласіпедыстаў, каб сцежкі часцей спалучаліся. Каб была магчымасць спакойна даехаць па іх з перыферыі ў цэнтр горада. Была б ашчаднасць і вельмі важны для здароўя рух. Ну, на гэта прыйдзецца яшчэ пачакаць.

❖ **Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## «Попел і памяць. 1946»

Сардэчна запрашаем на перфарматыўнае чытанне „Попел і памяць. 1946". Выступяць акцёры тэатра „Чрэва" Іаанна Троц і Тамаш Таранта, якія прачытаюць фрагменты „**Informacji o ustaleniach końcowych śledztwa S 28/02/Zi w sprawie pozbawienia życia 79 osób — mieszkańców powiatu Bielsk Podlaski, w tym 30 osób tzw. furmanów w lesie koło Puchał Starych, dokonanych w okresie od dnia 29 stycznia 1946 r. do dnia 2 lutego 1946 r. przez oddział PAS NZW kpt. Romualda Rajsa ps. „Bury"**" і ўспаміны сведак гэтых трагічных падзей, спісаных на пачатку дзевяностых гадоў XX стагоддзя журналістамі тыднёвіка „Ніва".

**1 лютага (серада) 2017 г. у 18.00** ва Універсітэцкім культурным цэнтры (кампус Універсітэта ў Беластоку, вул. Цыялкоўскага, даезд ад вуліцы 11 Лістапада). Арганізатары: Цэнтр праваслаўнай культуры ў Беластоку, Царкоўнае брацтва Трох святых іерархаў, Універсітэцкі цэнтр культуры УуБ. Уваход свабодны.

**2 лютага (чацвер) 2017 г. у 18.00** у Цэнтры праваслаўнай культуры ў Беластоку, вул. св. Мікалая, 5. Арганізатары: Цэнтр праваслаўнай культуры, Царкоўнае брацтва Трох святых іерархаў, Згуртаванне Брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія — гуртох у Беластоку. Уваход свабодны.

**Ад імя арганізатараў запрашае Славамір НАЗАРУК**

## Адгаданка

Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. гарэлка з ядлоўцавым пахам = 20 _ 18 _ 19 _ 12 _;
2. пасудзіна, у якой расчынялі хлеб = 9 _10 _ 11 _ 16 _ 1 _ 2 _;
3. дняпроўская сталіца = 29 _ 13 _ 26 _ 5 _;
4. раённы цэнтр з лідскім замкам = 3 _ 4 _ 14 _ 15 _;
5. дзяржава ў сярэднім цячэнні Ніла = 6 _ 8 _ 17 _ 24 _ 25 _;
6. цыганскі абоз = 7 _ 21 _ 22 _ 30 _ 23 _;
7. напой з самавара = 27 _ 28 _ 31 _.

**(ш)**

|  |  |  |  |  |  |  |  |  |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
|  |  |  |  |  | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
|  |  |  | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
|  |  |  |  | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
|  | 25 | 26 |  | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 2 нумара**

Агонь, гром, снегапад, гумно, Белгарад, вагон, аглобля, дах, мыла, гоман, выкладчык, крама, палітра.

Рашэнне: **Многа снегу — многа хлеба, многа вады — многа травы**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

## 29.01 — 04.02

**(22.03. — 20.04.)** Пачнуцца эмацыйныя праблемы з тваім любімым былым чалавекам. Зараз ён нагадае табе пра сваё існаванне, прычым не самым лепшым чынам. Астудзі жар сваіх пачуццяў, выкарыстоўваючы распалены метал і настой святаянніка. Запалі свечку, налі круты настой святаянніка ў высокі кубак і напалі дачырвана на агні лязо нажа. Увесь час у думках прамаўляй імя свайго ранейшага палюбоўніка. Успамінай, як раней ваша любоў гарэла. Уяві, што зараз усе былыя пачуцці і жаданні сканцэнтраваны на распаленым кончыку нажа. Апусці клінок у кубак з настоем і прамоў: «Як жалеза астудзілася, так і душа мая астыне да ... (імя)». Выпі ўсё змесціва кубка. Уяві, як усе ранейшыя перажыванні пакідаюць цябе і застаюцца толькі ўспаміны, якія больш не будуць цябе турбаваць.

**(21.04. — 21.05.)** Дасць аб сабе вестку стары канфлікт. Паспрабуюць вывесці цябе з раўнавагі, таму трымайся ў баку ад непрыемных людзей; усё вырашыцца само сабой нават з карысцю для цябе. Пачатак тыдня прынясе праблемы, звязаныя з тваёй прафесійнай дзейнасцю. Можаш падгарнуцца пад гарачую руку злоснаму начальніку. Не забывай, што тваё жаданне перамен можа абярнуцца супраць цябе.

**(22.05. — 22.06.)** 29-31.01. рассакрэціш таямніцу. Тыдзень будзе поўны прыгод. Усе твае разумныя ідэі будуць рэалізавацца на практыцы. Свой час рабі максімальна разнастайным, удзельнічай ва ўсіх мерапрыемствах. Але будзь абачлівым у фінансавых пытаннях, адмоўся ад удзелу ў латарэях і адкладзі паход у казіно.

**(23.06. — 23.07.)** Магчымыя канфлікты і нават бойкі, вынікам якіх будуць парэзы, удары і кантузіі. Будзь уважлівым. Тваё мінулае, даўно забытыя падзеі зноў дадуць пра сябе знаць. Магчымыя сустрэчы з даўнімі знаёмымі. Не грэбуй сваімі абавязкамі. У панядзелак не пераходзь ніякіх меж (у адносінах з людзьмі, у размовах...) — не трап у двухсэнсоўную сітуацыю.

**(24.07. — 23.08.)** Нечакана для сябе можаш заўважыць, што кола тваіх зносін парадзела. Адбудуцца нечаканыя падзеі, на асэнсаванне якіх спатрэбіцца нейкі час. Любыя паездкі будуць спрыяльнымі для справы і задавальнення. Добры час для зачацця дзіцяці. У панядзелак і ў сераду варта паклапаціцца пра бяспеку.

**(24.08. — 23.09.)** Трымай язык за зубамі. У тваім жыцці наступае светлая паласа. Адкрываюцца новыя магчымасці, павялічацца даходы, атрымаеш перавагу над іншымі. Будзеш удзельнічаць у грамадскіх і дзелавых сустрэчах. Не адмаўляйся ад ніякіх выгадных прапаноў, трымайся ў баку ад эмацыйных канфліктаў.

**(24.09. — 23.10.)** Падзеі, якія адбудуцца, дбайна прааналізуй. Не дазваляй пачуццям ствараць перашкоды ў прафесійнай дзейнасці. Разгледзь сітуацыю з усіх бакоў, абдумай і прымі правільнае рашэнне; гэта зменіць тваё становішча. У панядзелак не атрымаецца сысці ад непрыемнай сур'ёзнай размовы.

**(24.10. — 22.11.)** 30-31.01. не ляпні абы-чаго, не распалі канфлікту. Калі табе перабяжыць дарогу белая котка, чакаюць цябе павышэнне па службе, новыя матэрыяльныя даброты і ўсялякія перавагі. Кінь на зямлю, дзе прабегла котка, медную манету, каб «адзначыць» гэтае месца і не прайсці міма прызначаным табе лёсам выгод. У панядзелак з'явіцца шанц неяк праявіць сябе.

**(23.11. — 22.12.)** Насычаны, вельмі ўдалы і плённы тыдзень, багаты на добрыя ідэі ў плане асабістага ўзбагачэння; не спяшайся рэалізоўваць іх усе адразу, інакш страціш грошы. Пільная ўвага з боку начальства, калег, дзелавых партнёраў і канкурэнтаў. Калі ўпусціш на падлогу кашалёк з грашыма — у бліжэйшы час будуць нейкія выдаткі і страты.

**(23.12. — 20.01.)** Хто-небудзь ці што-небудзь будзе моцна залежаць ад твайго меркавання і ад прымаемых табою рашэнняў. Пакарыстайся перавагай, не слухай чужых падказак і рабі так, як выгадна табе. У панядзелак глядзі, куды ступаеш. У аўторак можаш пачаць любыя складаныя справы.

**(21.01. — 19.02.)** Самыя звычайныя працоўныя будні, напоўненыя дробнымі прыдзіркамі начальства і рознымі вытворчымі накладкамі. Каб які-небудзь чалавек змяніў сваё меркаванне і паступіў так, як выгадна табе, зацісні паміж далонямі яго фатаграфію і пахадзі з ёй па крузе спінай наперад, паўтараючы такія словы: «Задам наперад, усё наадварот, будзеш хадзіць, будзеш думаць, рабіць будзеш усё на маю карысць, усё, як я скажу». Калі не маеш фатаграфіі таго чалавека, выкарыстоўвай лісток паперы, на якім напішы яго імя і прозвішча.

**(20.02. — 21.03.)** Можаш атрымаць нейкую ілжывую інфармацыю. Не вер таму, чаго не бачыў на свае ўласныя вочы, не падпісвай непрачытаных дакументаў і не спадзявайся на запэўніванні нават сяброў. Прыглянься як след да здароўя сваіх блізкіх. Апынешся на вышыні ў чацвер: будзе табе шанцаваць ва ўсім.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**



# У палескай глыбінцы (71)

Пра выключнасць і прэстыж Вэтлаў заяўляе лакальная прыказка: *Лепш пакарміць вэтлаўскага сабаку, чым бароцкага чалавека!*

— А што гэта дакладна значыць? — пытаю ў Косці Кірылюка, бухгалтара і фаната мясцовай гісторыі.

— Ну, гэта пра наш менталітэт, — сцішаным і адначасова стойкім голасам, заяўляе спадар Косця, — гэта значыць, у нас харошыя і добрыя людзі.

У Вэтлаўскі сельсавет прыехала я проста з дарогі, без папярэджання, у час працоўных гадзін. Хоць у мяне не было намеру замінаць на працы, спадар Кастусь, без аглядкі і лішніх слоў, адклаў на бок усе прафесійныя справы і паклікаў у прыёмны кабінет. Там чакаў мяне доўгі расповед пра паўміфічную і больш сучасную гісторыю месца, гутарка доўжылася недзе за паўтары гадзіны, з перапынкам на пачастунак і мясцовыя цікавіны. Усё гэта атрымалася шчыра і ветліва, з разуменнем, дык па сённяшні дзень адчуваю вялікую ўдзячнасць...

Чамусьці думаем са здзеклівай дыстанцыяй пра архаічныя культуры, нібыта там адно дзікунства, бруд, слёзы ды бяда. Мала хто здольны аддаць перавагу старым цывілізацыям. Каб развітацца з пустымі міфамі, дастаткова наведаць прыпрыпяцкія мясціны. Многія з іх былі вядомыя ўжо ў часы старажытнасці, пасля іх засталіся старыя гарадзішчы, курганы, назовы ўрочышчаў і ментальныя асаблівасці.

У Вэтлах уразіла мяне адкрытасць і незвычайная ветлівасць людзей. Сярод незнаёмых людзей я на вуліцы адчувала сябе камфортна і бяспечна, быццам у Канадзе. Прытым адчувалася тактоўная стрыманасць і адказнасць за грамаду і аднапляменцаў. Калі я падымала клапатлівыя тэмы, мяне адразу гасілі і затыкалі рот запытаннем:

— А хто вам такое нагаварыў?!

* * *

Пра многія справы людзі звычайна саромеліся гаварыць, намякалі пра іх маргінальнасць і часовасць. Так менавіта ўспрымалі нелегальную здабычу бурштыну. На капачах не пакідалі сухой ніткі. Вінавацілі іх у руйнаванні прыроды і паніжэнні ўзроўню вады ў Прыпяці. Яшчэ больш неахвотна выказваліся пра палітычныя сімпатыі жыхароў сяла. Калі ўлічыць вынікі галасаванняў, можна меркаваць, што ў Вэтлах адны камуністы. У ходзе размоў ніхто, аднак, асабіста не лічыў сябе сімпатыкам гэтай палітычнай плыні:

— Гэта пройдзены этап! — заяўлялі з хвацкай свабодай.

— Дык чаму прагаласавалі на камуністаў?

— Кандыдат спадабаўся.

У апошняй справе не было сумненняў, бо ж галасавалі на Адама Мартынюка, вядомага ўкраінскага палітыка звязанага з Камуністычнай партыяй Украіны, родам з Вэтлаў. Славуты зямляк не падвёў спадзяванняў. Наадварот, у яго адрас гучалі словы ўдзячнасці і пашаны. Асобе Мартынюка прыпісвалі асфальтавыя дарогі, новыя цэрквы, дзіцячыя садкі і спартовыя пляцоўкі. На яго галасавалі не толькі ў родным сяле, але і ў навакольных вёсках, такіх як Невір ці Горкі.

Канкрэтная падтрымка і дапамога значыла тут больш чым гутаркі пра каштоўныя ідэі і абяцанні лепшай будучыні. Самай клапатлівай аказалася тэма вайны, якая, хоць далёка ад Палесся, збірала крывавую даніну. З Вэтлаў мабілізавана сорак адна асоба, большасць з іх ужо адслужылі і вярнуліся дамоў, у тым ліку ёсць параненыя і ваенныя інваліды. Што будзе далей — лепш не гадаць і думаць. Ці не паўторыцца сцэнарый з Другой сусветнай вайны, калі з сяла пайшло на фронт за трыста мужчын, з якіх 136 чалавек не вярнулася дамоў жывымі. Сучасная вайна, якую афіцыйна называюць антытэрарыстычнай аперацыяй, мае падвойнае дно і неадназначную ацэнку. Прыклад чакаў на месцы. Здзівіла мяне зацятае маўчанне вакол генерала Д., родам з Вэтлаў, які ваюе на баку данецкіх апалчэнцаў. Хоць у навакольных вёсках



вешалі на ім сабак, у родным сяле як агню пазбягалі тэмы і не асуджалі выбару. Той-сёй нават спачуваў вайскоўцу, які сваім дзеяннем і пазіцыяй сам ужо асудзіў і пакараў сябе самога.

— Ён жа прыедзе ўжо ў роднае сяло!

* * *

У Вэтлы прыехала я за падказкай Сцяпана Адамавіча Аўласюка, настаўніка гісторыі і даследчыка варажскіх слядоў на Палессі. Паводле яго слоў, якраз у Вэтлах знаходзілася варажскае гарадзішча. На месцы чакала мяне недаразуменне. Кастусь Кірылюк варажскае пытанне лічыў чыстай фантазіяй.

— У мяне няма такіх ведаў, — падвёў усю праблему з дакладнасцю бухгалтара.

Затое назваў многія старажытныя культуры, якія пражывалі на тэрыторыі сяла. Першыя пасяленні з'явіліся ўжо дваццаць тысяч гадоў да нашай эры. Гэта значыць адно: людзі тут былі ад заўсёды. Вядома таксама, што па Прыпяці ішоў бурштынавы шлях з варагаў у грэкі. У доказ старажытных гандлёвых сувязей спадар Кірылюк паказаў мне рымскія манеты, датаваныя на першае і другое стагоддзе нашай эры. Манеты знайшоў мясцовы хлопец на полі. Далей, з-за недахопу гістарычных крыніц, мы пераскочылі ажно ў пятнаццатае стагоддзе, калі першы раз упамінаецца пісьмовая згадка пра Вэтлы.

Старажытны *град* прыналежаў Ратненскаму княству, якім валодалі князі Сангушкі.

Паводле майго субяседніка, першая царква была ўзведзена ў шаснаццатым стагоддзі.

Прыблізна тады Вэтлы атрымалі магдэбургскія правы, якімі карысталіся па часы Паўночнай вайны. Гараджане ад заўсёды карысталіся асабістай свабодай і не спазналі прыгоншчыны. Іх асноўнай задачай, ажно па 1939 год, з'яўлялася служба і ахова лесу. Мясціна, калі глядзець па падляшскіх мерках, напамінала ў многім нашу Белавежу. Яна ажывала і развівалася, калі заязджалі на паляванні каралі, князі, палітыкі, а ў сённяшні час — алігархі. Наступная гістарычная цікавінка датычыла паўстання 1863 года. Пра падзею сведчыла грунтоўная табліца ў гонар Рамуальда Траўгута і славутай бітвы пад Горкамі. Табліцу захоўваюць у сяле, у прыватных руках.

— Чаму не перадалі ў нацыянальны музей?

Спадар Кастусь адразу звёў мяне на зямлю:

— Для нашых людзей гэта найперш 30 кілаграмаў бронзы, — адказаў.

Мой субяседнік, радавіты вэтлянін, ніяк не адносіць паўстання 1863 года з гісторыяй Вэтлаў. На яго думку, гэта была выключна польская вайна і польскі інтарэс.

* * *

Праўда, гістарычныя звесткі і крыніцы набываюць дадатковыя веды і шырэйшае разуменне, калі ўлічыць спецыфіку месца. Згодна са сваім інтарэсам я рашыла адшукаць старажытнае гарадзішча, якое паклікала мяне ў гэты закутак. Спадар Косця нарысаваў мне дакладны план, і да таго як адправіў у дарогу, праверыў ці памятаю ўсе прыдарожныя знакі. Спачатку трэба ісці ў бок Невіра, ажно да месца, дзе стаіць вялікі крыж. Там ідзе дарога на Прыпяць. Яна вядзе на мост, адкуль відаць высокі зямны насып. Гэта і будзе месца па гарадзішчы. Нават сляпы туды трапіць.

Добра сказаць! Ужо на загарадзі прывітала мяне сцяна трыснягу і вербалозу. З нутра гэтай балотнай гушчы даходзілі непрыемныя гукі ўсялякай масці насякомых і аваднёў. Я ішла зялёнай траншэяй, не азіраючыся за сябе. Маю дарогу час ад часу перасякалі прытокі і меандры ракі, на дарозе ляжаў растаптаны вуж, у паветры кружылі сцярвятныя канюкі. У такіх здрадлівых і непрыветных месцах яшчэ больш хацелася думаць пра паўстанцаў. Ніякія войскі не ў змозе ваяваць у такім месцы без дапамогі мясцовых праваднікоў. Знаёмасць тэрыторыі вырашала пра характар змагання і перамогу...

З бетоннага моста, які ішоў па Прыпяці, я прыкмеціла ўзгорак. На ім, ажно да канца шаснаццатага стагоддзя знаходзіліся Вэтлы. Як мяркуе Косця Кірылюк, мястэчка перайшло на другі бераг ракі, з-за дакучлівых паводак, якія прыносіла Прыпяць і яе прытокі. У такі час гарадзішча напаміняла востраў сярод велічнага возера, якое цягнулася па небакрай на поўдзень, ажно да Вялікай Глушчы.

З перспектывы гарадзішча навакольны свет напамінаў стэп, у якім патаналі хаткі, абстаўленыя стагамі сена і забяспечаныя лодкамі.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 05